



№ 4(21)
Студзень 2004 года

# Краязнаўчая газета

## У нумары:






*Глыбокапаважаны Анатоль Пятровіч ГРЫЦКЕВІЧ!*

*Вы – унікальная асоба ў нашай навуцы і культуры. Атрымалі вышэйшую адукацыю, каб быць лекарам, лячыць людзей, пасля вырашылі здабыць іншую асвету, каб знайсці паразуменне з людзьмі розных краін на іх роднай мове.*

*Ды сталася так, што Вы, Анатоль Пятровіч, і свае веды па медыцыне, замежных мовах, і свае прыродныя розум і душу прысвяцілі гісторыі Беларусі. Мала сказаць – прысвяцілі, Вы – сёння ў гэтай справе адзін з самых галоўных аўтарытэтаў, бо Ваша слова – узровень, вышыня думкі, поглядаў, ацэнкі, умення самому сказаць і паслухаць іншых дзеля Яе Вялікасці Ісціны.*

*Слыннага гісторыка, члена рэдкалегіі цёпла і шчыра віншуем з 75-годдзем, жадаем добрага здароўя, настрою і новага важкага слова Гісторыка! Мы – за Вас і з Вамі.*

***«Краязнаўчая газета»***

*Экспедыцыя «Наш край»*

# Новы, чацвёрты этап

***Як вядома, дзеля больш глыбокага вывучэння падлеткамі і юнакамі роднай прыроды, гісторыі і культуры Беларусі ў 1992 годзе Міністэрства адукацыі наладзіла Усебеларускую турысцка-краязнаўчую экспедыцыю навучэнцаў «Наш край». Да 2003 года былі праведзены яе I, II і III этапы.***

У ходзе гэтых паэтапных экспедыцый навучэнцы шырэй далучыліся да краязнаўчага руху. Пад кіраўніцтвам настаўнікаў, навукоўцаў, музейных работнікаў, грамадскіх аб'яднанняў і пры спрыянні перыядычных выданняў былі наладжаны паспяховае даследаванне і папулярызацыя прыроднай і культурна-гістарычнай спадчыны з усіх куткоў Беларусі. Пасля ў навучальных калектывах, музеях, гуртках пазашкольных устаноў і аб'яднанняў гэтая работа аналізавалася, а на аснове аналізу намячаліся новыя накірункі. За гэты час пабольшала колькасць музеяў у адукацыйных установах і, галоўнае, яны пачалі ствараца з новым падыходам, з напаўненнем рэгіянальнай гісторыка-культурнай спадчыны (пра некаторыя такія музеі, як у Дзераўнянскай СШ Стаўбцоўскага, Эйсманскай базавай школе Бялыніцкага раёнаў, наша газета пісала летась).

Сёлета загадам Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь ад 9 студзеня было прынята рашэнне правесці IV этап Усебеларускай турысцка-краязнаўчай экспедыцыі навучэнцаў «Наш край» з 1 студзеня 2004 года па 31 снежня 2006 года, дзеля чаго былі зацверджаны асновы гэтага этапу, яго план правядзення масавых мерапрыемстваў, утвораны Цэнтральны Савет па каардынацыі дзеянняў.

Цэнтральны Савет Усебеларускай турысцка-краязнаўчай экспедыцыі навучэнцаў «Наш край» нядаўна правёў сваё першае пасяджэнне. Адкрыў яго Г. А. Бутрым – ягоны старшыня, начальнік Галоўнага ўпраўлення сацыяльнай і выхаваўчай работы Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, які пазнаёміў членаў Савета і запрошаных з гісторыяй руху і яго новымі задачамі.

Удзельнікаў пасяджэння павітаў старшыня ГА «Беларускі фонд культуры» У. А. Гілеп, падкрэсліўшы, што ў БФК і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь шмат было, ёсць і будзе адных клопатаў, сумеснай работы па належным захаванні нашай багатай прыроднай і гісторыка-культурнай спадчыны, услаўленні яркіх асоб нашай Бацькаўшчыны, расказаў пра планы БФК на 2004 год.

Пра вопыт, вынікі III этапу вышэйназванай экспедыцыі разважалі С. С. Мітраховіч – намеснік старшыні Цэнтральнага Савета, дырэктар Рэспубліканскага цэнтра турызму і краязнаўства навучэнскай моладзі, С. В. Гатоўка – метадыст аддзела турысцка-краязнаўчай работы Мінскага абласнога навучальна-метадычнага кабінета, І. М. Ігнатава – загадчык аддзела краязнаўства і пошукавай работы Магілёўскага абласнога цэнтра фізічнага выхавання і спорту навучэнцаў і студэнтаў упраўлення адукацыі аблвыканкама, В. А. Ермалёнак – настаўнік СШ № 3 г. Мёры. Хоць у іх выступленнях прагучалі і асобныя заўвагі, парады, але ўсе выступоўцы зазначылі вялікую духоўную каштоўнасць экспедыцыі «Наш край» у справе выхавання годных грамадзян нашай краіны, будучых яе работнікаў, дзеячаў навукі і культуры, упраўленцаў.

Член Цэнтральнага Савета, пісьменнік, намеснік галоўнага рэдактара «Краязнаўчай газеты» Генрых Далідовіч у сваім выступленні спыніў сваю ўвагу на вялікім значэнні ўсебаковага асвятлення краязнаўчай работы навучэнцаў, лепшых яе вынікаў у перыядычным друку, на важнасці ў гэтай справе пашырэння і паглыблення вучнёўскіх ведаў па беларускай мове і літаратуры. У прыватнасці, ён рашуча не пагадзіўся, што цяпер экзамены ў школе па беларускай і рускай мовах праводзяцца па выбары яшчэ не зусім свядомых юных грамадзян. Экзамены, падкрэсліў выступоўца, павінны праводзіцца абавязкова па дзвюх цяперашніх дзяржаўных мовах, каб яны абедзве былі належна забяспечаныя на дзяржаўным узроўні, дзеля чаго зусім не шкодзіла б прыняць прэзідэнцкі дэкрэт аб належным забеспячэнні дзяржаўнасці беларускай мовы ў Рэспубліцы Беларусь.

Пры падвядзенні вынікаў першага пасяджэння Цэнтральнага Савета было адзінадушна ўхвалена, што адным з першых сёлетніх указаў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь быў указ пра аднаўленне беларускай часткі Аўгустоўскага канала, а першы загад міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь датычны менавіта правядзення новага этапу Усебеларускай турысцка-краязнаўчай экспедыцыі навучэнцаў «Наш край» – гэта значыць тых рэчаў, якія вядуць нас у цывілізаваны свет.

***«КГ» чакае ад чытачоў парад па правядзенні новага этапу экспедыцыі, матэрыялаў па ёй.***

ЗАЦВЕРДЖАНА
Загад Міністэрства адукацыі
Рэспублікі Беларусь
9 студзеня 2004 г. № 1

## Канцэптуальныя асновы IV этапа Усебеларускай турысцка-краязнаўчай экспедыцыі навучэнцаў «Наш край»

### Глава 1. АГУЛЬНЫЯ ПАЛАЖЭННІ

1. Турысцка-краязнаўчая дзейнасць мае ўстойлівыя прынцыпы і методыку ў рамках вучэбна-выхаваўчага працэсу, з'яўляецца традыцыйным і эфектыўным сродкам народнай педагогікі, важным фактарам у ідэйна-выхаваўчай рабоце. Канцэпцыяй выхавання дзяцей і навучэнскай моладзі Рэспублікі Беларусь закладзены асноўныя прынцыпы арганізацыі вучэбнай, навуковай і грамадска-карыснай дзейнасці юных краязнаўцаў. Гэта прынцыпы прырода- і культураадпаведнасці, навуковасці, варыятыўнасці дзейнасці, талерантнасці, эстэтызацыі, адкрытасці выхаваўчых сістэм і сувязі выхавання з жыццём.

2. Усебеларуская турысцка-краязнаўчая экспедыцыд навучэнцаў «Наш край» (далей – Экспедыцыя) – доўгатэрміновая рэспубліканская акцыя навучэнцаў па даследаванні і папулярызацыі рэгіянальнай культурна-гістарычнай і прыроднай спадчыны.

3. Экспедыцыя праводзіцца з мэтай усебаковага вывучэння свайго рэгіёну і далейшага ўдасканалення турысцка-краязнаўчай работы сярод навучэнцаў. Асноўнай выхаваўчай задачай Экспедыцыі з'яўляецца фарміраванне маральных і эстэтычных поглядаў навучэнцаў, іх гістарычнай свядомасці і грамадзянска-патрыятычных пачуццяў сродкамі турызму, краязнаўства і культурна-асветніцкай дзейнасці.

4. Удзельнікамі Экспедыцыі з'яўляюцца навучэнцы, турысцка-краязнаўчыя гурткі, пошукавыя групы, саветы музеяў, клубы і іншыя дзіцяча-юнацкія аб'яднанні. Яны вядуць даследчую працу адпаведна сваім інтарэсам і выбранаму накірунку экспедыцыйнай дзейнасці.

5. У рамках краязнаўчай дзейнасці па накірунках Экспедыцыі ўстанаўліваюцца цесныя і доўгатэрміновыя сувязі з навуковымі і іншымі дзяржаўнымі арганізацыямі, творчымі саюзамі і іншымі грамадскімі аб'яднаннямі, выкарыстоўваюцца іх навукова-метадычныя, матэрыяльныя і творчыя магчымасці.

6. Асновай экспедыцыйнай работы з'яўляецца выкананне грамадска-карысных заданняў, накіраваных на адкрыццё малавядомых альбо малавывучаных падзей і фактаў гісторыі, геаграфіі, этнаграфіі, археалогіі, фальклору, помнікаў мастацкай культуры краю, забытых імёнаў славутых землякоў, аднаўленне механізмаў пераемнасці мясцовых культурных традыцый.

7. Экспедыцыя праводзіцца паэтапава, вынікі падводзяцца перыядычна ў адпаведнасці з планам правядзення масавых мерапрыемстваў Экспедыцыі.

8. З 1 студзеня 2004 г. па 31 снежня 2006 г. абвяшчаецца правядзенне IV этапа Экспедыцыі.

9. Правядзенне чарговага этапа Экспедыцыі павінна садзейнічаць развіццю і далейшаму пашырэнню краязнаўчага руху сярод навучэнцаў, выпрацоўцы канкрэтных рэгіянальных праграм, праектаў і заданняў, вызначэнню актуальных праблем для даследавання, дасягненню канкрэтных вынікаў сваёй дзейнасці на мясцовым і рэгіянальным узроўнях.

***(Працяг на стар. 2.)***





## Аб выніках III этапа Усебеларускай турысцка-краязнаўчай экспедыцыі навучэнцаў «Наш край»

Цэнтральным Саветам Усебеларускай турысцка-краязнаўчай экспедыцыі навучэнцаў «Наш край» падведзены вынікі III этапа Экспедыцыі. Аналіз дзейнасці ўстаноў адукацыі па рэалізацыі мэтавых праграм III этапа Экспедыцыі сведчыць аб пашырэнні краязнаўчага руху, павышэнні эфектыўнасці выхаваўчай і ідэалагічнай работы сярод навучэнскай моладзі. За гэты час у навучэнцаў складіся больш трывалыя веды аб грамадстве, узрасла цікавасць да вывучэння роднага краю.

Удзельнікі III этапа Экспедыцыі даследавалі непасрэдна тэрыторыю сваёй мясцовасці, з якой звязаны сваім нараджэннем, гісторыю, культуру і прыроду роднага краю. Вынікам працы юных краязнаўцаў стала распрацоўка турысцка-краязнаўчых маршрутаў свайго краю, складанне летапісаў родных мясцін, тапанімічных карт і слоўнікаў і г.д. Дзякуючы пошукавай і даследчай дзейнасці настаўнікаў і навучэнцаў адкрыліся малавядомыя старонкі жыццяпісаў і творчай спадчыны знакамітых людзей, якія нарадзіліся і жылі на Беларусі, зрабілі значны ўклад у эканоміку, навуку і культуру народа. Ушаноўваліся мемарыяльныя мясціны, добраўпарадкоўваліся помнікі, афармляліся экспазіцыі музеяў, прысвечаныя славутым землякам, даследавалася духоўная і матэрыяльная культура жыхароў рэгіёну.

Як сведчыць аналіз работы, краязнаўства ў рэгіёнах Беларусі развівалася дынамічна і быў створаны трывалы падмурак для далейшага развіцця краязнаўства ў навучальных установах рэспублікі. Падчас правядзення III этапа Усебеларускай турысцка-краязнаўчай экспедыцыі навучэнцаў «Наш край» пачала складвацца адпаведная сістэма краязнаўчай працы на ўсіх узроўнях, якая ўключае даследчую дзейнасць настаўнікаў і навучэнцаў, правядзенне рэгіянальных краязнаўчых акцый, разнастайныя формы супрацоўніцтва з установамі культуры, грамадскімі арганізацыямі, мясцовай адміністрацыяй.

На ўзроўні сумеснага рашэння калегіі ўпраўленняў адукацыі і культуры аблвыканкама ў Гродзенскай вобласці з мэтай даследавання культурна-гістарычнай і прыроднай спадчыны Прынёманскага краю праведзены краязнаўчы конкурс «Галасы гісторыі». Ён стаў прыкладам эфектыўнага супрацоўніцтва навучэнцаў, настаўнікаў, супрацоўнікаў музеяў, архіваў, бібліятэк, вядомых краязнаўцаў у рамках экспедыцыйнай дзейнасці. Падчас правядзення конкурсу былі арганізаваны краязнаўчыя даследаванні ў большасці навучальных і пазашкольных устаноў вобласці.

У рамках рэгіянальнай праграмы «Наш край Прыдняпроўскі», якая дзейнічае ў Магілёўскай вобласці, склалася эфектыўная сістэма кантролю экспедыцыйнай дзейнасці, наладжана метадычнае забеспячэнне ваенна-патрыятычнай пошукавай работы. У 12-ці раёнах вобласці складзены вучэбныя праграмы па рэгіянальным краязнаўстве. Узорнай можна лічыць факультатыўную праграму па краязнаўстве, якая дзейнічае ў навучальна-выхаваўчых установах Аршанскага раёна і г. Оршы Віцебскай вобласці. Экспедыцыйнымі групамі Віцебскай вобласці дасягнуты значныя вынікі ў пошукавай дзейнасці і вывучэнні старонак ваеннай гісторыі, захоўваюцца традыцыі ўшанавання памяці ахвяр фашызму. Высокі ўзровень навукова-даследчай дзейнасці навучэнцаў вобласці па ўсіх накірунках Экспедыцыі пацвердзіла рэспубліканская канферэнцыя юных краязнаўцаў у маі 2003 года.

Вынікова працуюць юныя краязнаўцы Мінскай вобласці. Імі назапашаны багаты матэрыял па літаратурным краязнаўстве, мясцовым фальклоры і этнаграфіі.

Плённа працавалі па мэтавых праграмах III этапа Экспедыцыі навучэнцы Брэсцкай, Гомельскай абласцей і г. Мінска.

Цэнтральны Савет Усебеларускай турысцка-краязнаўчай экспедыцыі навучэнцаў «Наш край» адзначае лепшыя экспедыцыйныя групы рэспублікі, якія працавалі ў рамках мэтавых праграм III этапа.

«Летапісанне родных мясцін»
1. СШ № 1 г. Паставы Віцебскай вобласці
2. Гімназія № 12 г. Мінска
3. СШ № 1 г. п. Карэлічы Гродзенскай вобласці
4. СШ № 90 г. Мінска
5. Стараслабадская СШ Крупскага раёна Мінскай вобласці
6. Насовіцкая СШ Добрушскага раёна Гомельскай вобласці
7. Аніскавіцкая СШ Кобрынскага раёна Брэсцкай вобласці
8. Нацыянальная гімназія г. Магілёва

«Патрыёты Бацькаўшчыны»
1. ПТВ № 199 г. Скідзеля Гродзенскай вобласці
2. СШ № 120 г. Мінска
3. СШ № 2 г. Заслаўя Мінскай вобласці
4. Косаўская СШ Івацэвіцкага раёна Брэсцкай вобласці
5. Верамейская СШ Чэрыкаўскага раёна Магілёўскай вобласці
6. Ветрынская СШ Полацкага раёна Віцебскай вобласці
7. СШ № 44 г. Гомеля

«Прыродная спадчына»
1. Рэчыцкая СШ № 3 Столінскага раёна Брэсцкай вобласці
2. Расонская СШ Віцебскай вобласці
3. Сталбуноўская СШ Веткаўскага раёна Гомельскай вобласці
4. Сялявіцкая СШ Слонімскага раёна Гродзенскай вобласці
5. СШ № 113 г. Мінска
6. Гацукоўская СШ Слуцкага раёна Мінскай вобласці
7. Быхаўская СШ № 3 Магілёўскай вобласці

«Адраджэнне культурных традыцый»
1. Лоская СШ Валожынскага раёна Мінскай вобласці
2. СШ № 173 г. Мінска
3. Сігневіцкая СШ Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці
4. СШ № 4 г. Асіповічы Магілёўскай вобласці
5. Сянькоўшчынская СШ Слонімскага раёна Гродзенскай вобласці
6. Відзаўская СШ Браслаўскага раёна Віцебскай вобласці
7. СШ № 5 г. Мазыра Гомельскай вобласці

*Начальнік Галоўнага ўпраўлення сацыяльнай і выхаваўчай работы, старшыня Цэнтральнага Савета Усебеларускай турысцка-краязнаўчай экспедыцыі навучэнцаў «Наш край»*
*Г. А. Бутрым*

## Канцэптуальныя асновы IV этапа Усебеларускай турысцка-краязнаўчай экспедыцыі навучэнцаў «Наш край»

***(Працяг. Пачатак на стар. 1.)***

### Глава 2. АРГАНІЗАЦЫЙНАЯ СТРУКТУРА

10. Арганізацыйна-метадычнае кіраўніцтва Экспедыцыяй ажыццяўляе Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, установа адукацыі «Рэспубліканскі цэнтр турызму і краязнаўства навучэнскай моладзі», на месцах – раённыя, гарадскія і абласныя органы адукацыі. Каардынацыя экспедыцыйнай дзейнасці навучэнцаў і педагогаў ажыццяўляецца Цэнтральным і рэгіянальнымі (першаснымі, раённымі, гарадскімі, абласнымі) Саветамі Экспедыцыі, якія фарміруюцца з ліку прадстаўнікоў органаў адукацыі, вядомых педагогаў, навукоўцаў, супрацоўнікаў музейных устаноў і краязнаўцаў.

11. Абласныя і Мінскі гарадскі Саветы Экспедыцыі распрацоўваюць рэгіянальныя праграмы, арганізоўваюць комплексныя і тэматычныя экспедыцыйныя мерапрыемствы, якія зацвярджаюцца абласнымі ўпраўленнямі і Мінскім гарадскім камітэтам адукацыі.

12. Раённымі (гарадскімі) Саветамі Экспедыцыі распрацоўваюцца і рэкамендуюцца навучальным установам канкрэтныя заданні для даследаванняў з улікам мясцовых традыцый вядзення краязнаўчай работы і яе ролі ў навучальна-выхаваўчым працэсе.

13. Пасяджэнне Цэнтральнага Савета Экспедыцыі, а таксама семінары-нарады адказных сакратароў абласных, Мінскага гарадскога Саветаў Экспедыцыі праводзяцца штогод.

14. Вынікі работы экспедыцыйных груп па накірунках дзейнасці падводзяцца Саветамі Экспедыцыі штогод на раённых, гарадскіх і абласных злётах, канферэнцыях, аглядах-конкурсах і г.д. Пераможцы абласных мерапрыемстваў накіроўваюцца для ўдзелу ва Усебеларускай канферэнцыі, якая праводзіцца штогод. Па заканчэнні IV этапу Экспедыцыі падводзяцца агульныя вынікі дзейнасці па экспедыцыйных накірунках.

### Глава 3. АРГАНІЗАЦЫЯ ТУРЫСЦКА-КРАЯЗНАЎЧАЙ ДЗЕЙНАСЦІ

15. Турысцка-краязнаўчая дзейнасць у рамках Экспедыцыі прадугледжвае пошукава-даследчую, асветніцкую і грамадска-карысную працу:

15.1. Пошукава-даследчая праца вядзецца комплексна і сістэмна, павінна мець паслядоўны характар. Вывучэнне краязнаўчага аб'екта прадугледжвае пэўную структуру даследавання, якая ўключае ў сябе даставернае апісанне і тлумачэнне гісторыі аб'екта даследавання, аналіз яго сучаснага стану і перспектыў развіцця. Пры даследаваннях выкарыстоўваюцца гістарычныя і літаратурна-фальклорныя крыніцы ў школьных, рэгіянальных і дзяржаўных музеях, бібліятэках і архівах, матэрыялы пошукавай і экспедыцыйнай працы, успаміны старажылаў;

15.2. Асветніцкая і грамадска-карысная праца юных краязнаўцаў вядзецца з улікам адукацыйных і ідэйна-выхаваўчых задач, актуальных праблем захавання культурна-гістарычнай і прыроднай спадчыны. Арганізуюцца мерапрыемствы па захаванні, прапагандзе і папулярызацыі рэгіянальных помнікаў гісторыі, культуры і прыроды, мясцовых культурных традыцый.

16. Для правядзення арганізацыйнай, вучэбна-выхаваўчай і турысцка-краязнаўчай работы прапануюцца асноўныя формы экспедыцыйнай дзейнасці:
паходы, падарожжы, экскурсіі;
экспедыцыі і палявыя даследаванні;
турысцка-краязнаўчыя злёты навучэнцаў;
тыдні турызму і краязнаўства для дзяцей і моладзі;
краязнаўчыя чытанні;
алімпіяды па краязнаўстве;
краязнаўчыя канферэнцыі;
агляды-конкурсы;
выставы;
навукова-даследчая дзейнасць;
семінары па праблемах краязнаўства;
профільныя краязнаўчыя лагеры;
выхаваўча-асветніцкая дзейнасць музеяў;
выдавецкая дзейнасць.

17. У якасці экспедыцыйных заданняў юным краязнаўцам прапануецца:
арганізаваць краязнаўчыя экспедыцыі з мэтай выяўлення, вывучэння і аднаўлення помнікаў прыроды, гісторыі і культуры свайго краю, даследавання іх сучаснага стану;
правесці экскурсіі, паходы і экспедыцыі па мясцінах рэгіянальнай і нацыянальнай гісторыі, выявіць і добраўпарадкаваць мемарыяльныя мясціны, звязаныя з жыццём і дзейнасцю землякоў, помнікі вайсковай славы, мясціны пахаванняў ваеннага часу і ахвяр рэпрэсій;
даследаваць жыццяпісы славутых землякоў;
стварыць летапісы родных мясцін (рэгіёна, населенага пункта, навучальнай установы);
аформіць альбо папоўніць экспазіцыю музея навучальнай установы па вызначаных тэмах;
скласці гісторыка-краязнаўчыя, прыродна-краязнаўчыя маршруты, тапанімічныя карты і слоўнікі;
скласці картатэкі культурна-гістарычных і прыродных помнікаў, іх фотаархіў;
стварыць краязнаўчы банк дадзеных, падрыхтаваць турысцка-краязнаўчы даведнік;
наладзіць супрацоўніцтва і каардынацыю дзейнасці з мясцовымі краязнаўцамі, музейнымі спецыялістамі і навукоўцамі;
распрацаваць план інфармацыйных і грамадска-карысных мерапрыемстваў па захаванні і папулярызацыі рэгіянальнай культурна-гістарычнай спадчыны, ахове мемарыяльных помнікаў і гістарычных мясцін.

### Глава 4. НАКІРУНКІ ДЗЕЙНАСЦІ

18. Удзельнікам IV этапа Экспедыцыі прапануюцца наступныя накірункі дзейнасці:

18.1. «Прыродная спадчына». Мэта накірунку – вывучэнне, захаванне і аднаўленне прыроднай спадчыны рэгіёну, даследаванне прыродных комплексаў, іх асобных элементаў у якасці неад'емнай часткі гістарычнага і культурнага жыцця чалавека. Юным краязнаўцам прапануецца:
даследаваць мясцовыя асаблівасці прыроды, выявіць і вывучыць асобныя аб'екты і помнікі (прыродныя ландшафты, рэльеф і геалагічная будова мясцовасці, аб'екты воднай сістэмы, глебава-расліннага покрыва і жывёльнага свету, адметныя валуны, садова-паркавыя ансамблі і г.д.);
даследаваць народныя традыцыі прыродакарыстання і сакрэты земляробства (у гаспадарчай дзейнасці, побытавай і каляндарна-абрадавай культуры), ступень сучаснага ўздзеяння чалавека на прыроду ў сваёй мясцовасці.

18.2. «Адраджэнне гістарычнай памяці». Мэта накірунку – даследаванне заканамернасцей узнікнення і развіцця беларускага этнасу, яго духоўнай і матэрыяльнай культуры, сучасных этнічных асаблівасцей рэгіёну і традыцый мясцовага краязнаўства. Юным краязнаўцам прапануецца:
вывучыць старажытную гісторыю краю, даследаваць помнікі археалогіі, нумізматыкі і эпіграфікі;
даследаваць рэгіянальны некропаль – памятныя мясціны краю, звязаныя з пахаваннямі людзей (курганы і могілкі, капліцы-пахавальні, помнікі і крыжы), іх культурна-гістарычныя і мастацкія вартасці;
даследаваць традыцыі мясцовага краязнаўства, навуковую і літаратурную спадчыну славутых краязнаўцаў.

18.3. «Культурная спадчына». Мэта накірунку – вывучэнне асаблівасцей рэгіянальных з'яў і элементаў этнічнай, свецкай і рэлігійнай культуры, пошук і аднаўленне механізмаў пераемнасці мясцовых культурных традыцый, даследаванне сямейных традыцый, рэліквій і радаводаў. Юным краязнаўцам прапануецца:
даследаваць рэгіянальныя традыцыі дэкаратыўна-прыкладнога і выяўленчага мастацтва, народнага касцюма, тэатральнай, музычна-спеўнай і танцавальнай культуры; помнікі вусна-паэтычнай і літаратурнай творчасці, традыцыі каляндарнай і сямейнай абрадавасці, народнай педагогікі;
даследаваць этнаграфічныя асаблівасці рэгіёну, выявіць і даследаваць помнікі эканамічнай культуры (прылады сялянскай і рамесніцкай працы, гаспадарчыя, рамесніцкія і вытворчыя пабудовы – старадаўнія радовішчы мясцовых рэсурсаў, кузні, паперні, піваварні, млыны, стайні, паштовыя станцыі, ставы і водныя каналы, чыгуначныя шляхі і інш.);
даследаваць традыцыі мясцовага дойлідства (асобныя збудаванні, горадабудаўнічыя комплексы, рэшткі старажытных збудаванняў і планіроўка паселішчаў, этна-архітэктурныя асаблівасці народнага жылля), магчымасці іх пераемнасці ў сучасным будаўніцтве;
даследаваць культуру палацавых і сядзібава-паркавых комплексаў, традыцыі геральдыкі і генеалогіі шляхецкіх і магнацкіх родаў;
даследаваць духоўна-культавыя мясціны краю, з якімі звязана станаўленне і развіццё мясцовай рэлігійнай культуры (помнікі і традыцыі язычніцтва, хрысціянства, іудаізму, ісламу, іх асобных канфесій, працэсы рэлігійнай рэфармацыі і міжканфесійнага ўзаемадзеяння), мясцовыя традыцыі педагогікі, асветніцтва і кнігадрукавання;
выявіць і даследаваць аб'екты страчанай гістарычнай і культурнай спадчыны – зруйнаваныя замкі і гарадзішчы, помнікі палацава-сядзібавай архітэктуры, зніклыя мастацкія і музейныя калекцыі, кнігі і архівы, забытыя назвы паселішчаў, геаграфічных аб'ектаў, асабовых імёнаў людзей;
даследаваць культурна-гістарычную і прыродную спадчыну жыхароў зніклых вёсак Палесся і Падняпроўя, якія трапілі ў зону радыеактыўнага забруджання.



18.4. «Старонкі ваеннай гісторыі». Мэта накірунку – даследаванне гераічных і трагічных падзей ваеннага ліхалецця, часоў рэвалюцыйнага і нацыянальна-вызваленчага руху ў рэгіёне. Захаванне памяці аб падзеях і выніках Вялікай Айчыннай вайны, аб іншых старонках ваеннай гісторыі краю з'яўляецца асноўнай задачай краязнаўчай дзейнасці па накірунку. Юным краязнаўцам прапануецца:
выявіць і даследаваць помнікі ваеннага часу, азнаёміцца са старонкамі ваеннай гісторыі краю;
даследаваць гісторыю партызанскай барацьбы і супраціўлення ворагу ў падполлі, факты ўдзелу жыхароў краю ў Вялікай Айчыннай вайне;
даследаваць факты ўдзелу грамадзян Беларусі ў ваенных дзеяннях па-за межамі краіны, выкананні інтэрнацыянальных абавязкаў;
даследаваць беларускія вайсковыя традыцыі ў гістарычным кантэксце.

18.5. «Славутыя імёны Бацькаўшчыны». Мэта накірунку – аднавіць і захаваць для нашчадкаў імёны і гістарычныя здзяйсненні людзей, што праславілі край вынікамі сваёй творчай і прафесійнай дзейнасці, воінскімі і грамадзянскімі подзвігамі. Юным краязнаўцам прапануецца:
даследаваць жыццёвы і творчы шлях славутых людзей краю – дзяржаўных і грамадскіх дзеячаў, славутых педагогаў, навукоўцаў, асветнікаў, дзеячаў культуры і мастацтва, мецэнатаў, вайскоўцаў;
даследаваць жыццё і творчасць землякоў – носьбітаў традыцыйнай рэгіянальнай культуры, таленавітых мясцовых майстроў у розных відах творчасці, землякоў-сучаснікаў, што апынуліся па розных прычынах удалечыні ад сваёй малой Бацькаўшчыны, але годна прадстаўляюць яе ў свеце.

19. Удзельнікі IV этапа Экспедыцыі па сваіх інтарэсах выбіраюць асноўны накірунак дзейнасці. Пошукавая і даследчая праца вядзецца і па іншых накірунках як дапаможных і неабходных для ўсебаковага вывучэння роднага краю.

# Анатолю Грыцкевічу – гонару Беларусі – 75!

Вучоны – найперш усяго
талент,
А талент не можа не зіхацець.
*Мустай Карым*

Анатоль Пятровіч Грыцкевіч нарадзіўся ў сталіцы нашай краіны, калі яна мела гордае беларускае імя Менск, 31 студзеня 1929 года. Мае некалькі вышэйшых адукацый, якія атрымаў у Мінскім дзяржаўным медыцынскім інстытуце (1950), Мінскім педагагічным інстытуце замежных моў (1955) і Беларускім дзяржаўным універсітэце імя У. І. Леніна (1958), што дазволіла А. П. Грыцкевічу пры пастаяннай самаадукацыі атрымаць глыбінныя энцыклапедычныя веды.

Выдатны папулярызатар навуковых ведаў, бліскучы педагог, знакаміты гісторык, Анатоль Пятровіч Грыцкевіч – гонар і слава Беларусі, рухавік нацыянальнага адраджэння нашай краіны.

У 1986 годзе ён абараніў доктарскую дысертацыю і стаў доктарам гістарычных навук, а ў 1987 – прафесарам.

Па атрыманай першапачатковай вышэйшай адукацыі працаваў урачом, а з 1959 года – на працы ў акадэмічным Інстытуце гісторыі. У 1975 годзе перайшоў працаваць у Мінскі інстытут культуры (з 1993 года – Беларускі дзяржаўны універсітэт культуры).

Поле навуковых даследаванняў Анатоля Пятровіча Грыцкевіча вельмі шырокае, гэтаксама як яго кнігі і публікацыі. Некалькімі словамі іх немагчыма вызначыць. Але пры усім гэтым – у яго творчых здабытках гучыць вялікая і непагасная сімфонія любові і прыгажосці да роднай зямлі, яе народа.

Немагчыма не сказаць і аб асаблівым стаўленні прафесара А. П. Грыцкевіча да гісторыі і культуры беларускіх татараў. Ён першым у пасляваеннай БССР звярнуўся да гісторыі нашага нешматлікага народа і прысвяціў яму змястоўны артыкул "З гісторыі паселішчаў татар на Беларусі", які надрукаваны ў часопісе "Весці Акадэміі навук БССР" (серыя грамадскіх навук) у трэцім нумары за 1981 год. Анатоль Пятровіч – удзельнік літаральна ўсіх мерапрыемстваў, што ладзяць беларускія татары, а яго даклады на татарскіх навукова-практычных канферэнцыях – незабыўныя і павучальныя.

***Ібрагім КАНАПАЦКІ (Мінск),***
***Міхась МАЛІНОЎСКІ (Баранавічы)***



*З братам Валянцінам (справа) падчас III З'езда беларусаў свету. 2001 год*

***Дарагі і шматпаважаны Анатоль Пятровіч!***

***У дзень Вашага 75-годдзя мы шчыра жадаем моцнага здароўя і шчасця, яшчэ большых здабыткаў на ніве самаадданай працы дзеля нашае Бацькаўшчыны – Беларусі. Вашая здольнасць вылучаць і спрыяць захаванню адметнага ў асобным чалавеку, згуртаваннях людзей, нацыянальных супольнасцях вельмі цэніцца намі. Для нас Вы – прыклад адданага служэння Бацькаўшчыне, самаахвярнай дзейнасці на карысць нацыі.***

***Мы дзякуем Богу, што ў сардэчных памкненнях ён паяднаў нас. Побач з Вамі нашае няпростае жыццё напаўняецца аптымізмам, святлом і любоўю. Жадаем Вам надоўга захаваць свае высакародныя якасці. Здароўя Вам і літасці Божай!***

***Праўленне аб'яднання "Зікр уль-Кітаб",***
***рэдакцыя газеты "Жыццё татарскае"***

***Напярэдадні юбілею прафесара мы звярнуліся да тых, хто ведае яго добра – да студэнтаў. І вось як яны выказаліся пра свайго Настаўніка.***

## Слова пра Настаўніка

**Уладзімір Пахараў** (студэнт, гр. 450):

"На мой погляд, А. П. Грыцкевіч – адзін з найлепшых прафесараў на Беларусі. Ён унёс вялікі ўклад у развіццё гісторыі Беларусі. Шмат кніг, публікацый... Дзякуючы чаму можна сустрэць шмат цікавай інфармацыі. Прычым, па розных тэмах. Жадаю шаноўнаму прафесару творчых поспехаў, плённа працаваць на ніве навукі і, можа быць, у хуткім часе атрымаць Нобелеўскую прэмію за адраджэнне беларускай гісторыі".

**Раман Абрамчук** (студэнт, гр. 431, намеснік старшыні таварыства "Этна"):

"Гэта выкладчык высокага ўзроўню, сапраўдны шляхціц. Ведае больш, чым ад яго патрабуе універсітэцкая праграма выкладання. Падабаецца, што вядзе заняткі з гумарам. Дзякуючы такім навукоўцам большая колькасць людзей пачынае цікавіцца сваёй гісторыяй, шукаць свае карані".

**Паліна Богдан** (студэнтка, гр. 450):

"А. П. Грыцкевіч – адзін з найлепшых выкладчыкаў. Сапраўдны інтэлігент і патрыёт сваёй Радзімы. Шмат зрабіў для адраджэння культуры. Для сапраўдных беларусаў – гэта знакавая асоба. Жадаю здароўя і поспехаў".

**Павел Каралёў** (студэнт, гр. 450, старшыня таварыства "Этна"):

"Цяжка нават усвядоміць, як шмат зрабіў гэты чалавек для таго, каб суайчыннікі больш ведалі пра Беларусь і ганарыліся яе слаўнымі старонкамі гісторыі. Для мяне А. П. Грыцкевіч з'яўляецца не проста выкладчыкам, а настаўнікам, які дапамагае сваім вопытам і добрымі парадамі. Дзякуючы яму гісторыя становіцца яшчэ больш цікавай. Хочацца пажадаць усяго самага найлепшага..."

**Алена Цітавец** (студэнтка, гр. 350):

"Падае праўдзівую гісторыю, а не толькі агульнапрынятыя яе версіі, умее адрозніць міф ад рэальных падзеяў і кажа тое, што мае сказаць, а не тое, што ад яго хочуць пачуць. Такім чынам, я паважаю А. П. Грыцкевіча найперш за любоў да ПРАЎДЫ, а яна, як вядома, мае уласцівасць перамагаць. З юбілеем, шаноўны Анатоль Пятровіч!"

*Радзім ГАРЭЦКІ*

## Мінеральныя рэсурсы Беларусі

***з кнігі "Вечна жыве Беларусь!"***

***(Працяг. Пачатак у № 1–3.)***

На тэрыторыі Беларусі было тры эпохі вугалеўтварэння. Найбольш старажытны (300 млн. гадоў таму) *вугаль* знаходзіцца ў Прыпяцкім прагіне на глыбінях звыш 300 м. Яго падлічаныя запасы – прыблізна 300 млн. т. Больш маладыя – юрскага і неагенавага перыядаў – вуглі распаўсюджаны на поўдні Беларусі ад Гомеля да Брэста. Першыя з іх залягаюць на глыбінях 100 – 300 м, і іх прагнозныя запасы толькі на найбольш вывучанай Лельчыцкай плошчы перавышаюць 500 млн. т. Самыя блізкія да зямной паверхні (25 – 100 м) і самыя разведаныя – гэта неагенавыя вуглі. Іх прагнозныя запасы дасягаюць 3 млрд. т. Дэталёва разведаны тры радовішчы: Жыткавіцкае, Брынёўскае і Тонежскае. Для першага з іх распрацаваны праект, па якім тут можна здабываць у кар'еры кожны год па 2–2,4 млн. т вуглю, а тэрмін працы 20 – 25 гадоў. Адмоўныя экалагічныя праблемы не дазваляюць пакуль што здзейсніць гэты праект. Вуглі Беларусі – бурыя, па якасці блізкія да торфу, але прыгодныя для вытворчасці энергетычнага і камунальна-бытавога паліва. У перспектыве ў Беларусі можна здабываць каля 5 млн. т бурага вуглю ў год.

У Прыпяцкім прагіне геолагі знайшлі рэдкі мінерал – *даўсаніт*, які ўтварае тут прамысловыя радовішчы і можа быць добрай сыравінай для вырабу *алюмінію* і *кальцынраванай соды*. Гэта адно з унікальных радовішчаў прыроднай соды ў свеце і першае на тэрыторыі былога СССР. На Заазёрным радовішчы ён залягае адносна неглыбока (240–1000 м), рудныя лінзы маюць магутнасць 0,4–5,7 м, а ўтрыманне даўсаніту ў рудзе 26 – 38 %. На базе гэтага радовішча маюцца добрыя магчымасці па арганізацыі адпаведнай вытворчасці. Яно будзе рэнтабельным пры ўмове прымянення геатэхналагічных метадаў (падземнае вышчалочванне). Эфектыўнасць асваення радовішча можа быць павялічана пры ўмове прыцягнення да эксплуатацыі баксітаў і каалінітаў, вылучэння з руды рэдкіх металаў – галію, літыю, ніобію, тытану.

На поўдні Беларусі знойдзены два *фасфарытаносныя* басейны – Сожскі і Прыпяцкі. Першы знаходзіцца на ўсходзе Магілёўскай вобласці, дзе разведаны Мсціслаўскае і Лабковіцкае радовішчы *фасфарытаў* з запасамі 30 млн. т. У межах другога знаходзіцца Брэсцкі фасфарытаносны раён (запасы 53 млн. т) з Арэхаўскім радовішчам. Востры дэфіцыт фасфатных угнаенняў у краіне прымушае звярнуць асаблівую ўвагу на гэтыя радовішчы фасфарытаў. Цяпер іх вырабляюць у Гомелі з прывезенай сыравіны (апатыты Кольскага паўвострава).

У Магілёўскай вобласці знойдзены радовішчы *цэалітаносных сіліцытаў* (трэпелы, апокі, крэменязёмныя мергелі) – Дружба (запасы 81 млн. т) і Стальное (запасы 134 млн. т). Гэтыя пароды ўтрымліваюць 50 % і больш мінералаў крэмнязёму і да 10–15, а зрэдку 25–30 % цэаліту. Яны з'яўляюцца выдатнымі прыроднымі сарбентамі і патрэбны ў многіх відах вытворчасці: цэментнай і цагельнай прамысловасці, сельскай гаспадарцы, ачыстцы харчовых прадуктаў, адпрацаваных масел, сточных вод, газаў, нафтапрадуктаў і г. д. Да апошняга часу цэалітаносныя трэпелы прывозяць з радовішча Фокіна (Бранская вобл., Расія). Нашы радовішчы нягоршыя, і на іх неабходна звярнуць увагу.

Каля Жыткавічаў і Мікашэвічаў вядомы 4 радовішчы *кааліна* (Сітніца, Дзедаўка, Людкевічы, Бярэзіна) з агульнымі прагнознымі рэсурсамі 27 млн. т. Яны залягаюць на глыбінях 13 – 35 м, з магутнасцю пластоў 1,2 – 29 м. Кааліны могуць знайсці прымяненне ў вытворчасці фарфоравых, фаянсавых вырабаў і інш.

Усцяж паўднёвага борта Прыпяцкага прагіну праходзіць паласа распаўсюджання *пірафіліту* – якаснай керамічнай і вогнеўстойлівай сыравіны. Асабліва перспектыўная Лельчыцкая плошча.

Надзвычайна важнае значэнне маюць радовішчы *падземных вод*: пітных і тэхнічных, мінеральных – бальнеалагічных і прамысловых. Пітныя падземныя воды Беларусі – адны з лепшых у Еўропе. Большасць беларускіх гарадоў карыстаецца гэтай вадой. Мінеральныя воды рознага складу шырока распаўсюджаны па тэрыторыі краіны, і іх здабыча ідзе са свідравін. На іх базе функцыянуе шэраг санаторыяў, а таксама заводаў па іх розліву. У 1998 г. за адкрыццё і асваенне мінеральных вод група спецыялістаў атрымала Дзяржаўную прэмію Рэспублікі Беларусь. На жаль, рацыянальнае выкарыстанне пітных вод, асабліва іх эканомія і ахова ад забруджвання, патрабуюць значна большай увагі ўладных, вытворчых структур, усіх жыхароў краіны. Падземныя воды – адно з самых галоўных карысных выкапняў, гэта наша сапраўднае неацэннае багацце. Пытанне з вадою ў многіх рэгіёнах, краінах, гарадах стала праблемай нумар адзін.

Некаторыя воды – *тэрмальныя* (гарачыя) і могуць выкарыстоўвацца ў лекавых мэтах, для абагравання кватэр і цяпліц. Найбольш гарачыя воды ў Прыпяцкім прагіне (да 40° – 90°), у Брэсцкай упадзіне (да 40°).

У Прыпяцкім прагіне, а часткова і ў Аршанскай упадзіне асадкавы чахол змяшчае вялікія запасы высокаканцэнтраваных *расолаў*. Гэта – "вадкая руда", з якой можна вылучыць ёд, бром, цэзій, калій, літый, рубідый, стронцый і многія іншыя рэдкія і рассеяныя элементы. Тут сур'ёзныя праблемы з тэхналогіяй здабычы і перапрацоўкі расолаў. Сам расол можна выкарыстоўваць у медыцыне, раслінаводстве, жывёлагадоўлі, прамысловасці.

Пералічаныя мінеральныя рэсурсы звязаны галоўным чынам з адкладамі асадкавага чахла. Самыя разнастайныя карысныя выкапні прыстасаваны да парод крышталічнага фундамента. З іх раней ужо ўзгадваліся будаўнічыя матэрыялы. Разведана два радовішчы *жалезнай руды*: Навасёлкаўскае паблізу Карэлічаў і Аколаўскае каля Стоўбцаў. Першае – *ільменіт-магнетытавыя* руды з сярэднім утрыманнем жалеза 32 % знаходзяцца на глыбіні 150 м. Прагнозныя рэсурсы жалеза 76 млн. т. Другое – *жалезістыя кварцыты* з сярэднім утрыманнем жалеза 27 %. Запасы на глыбіні 700 м – 500 млн. т. Руды радовішчаў комплексныя: тут ёсць тытан, ванадый, фосфар, кобальт, германій, серабро, золата. На базе Аколаўскага радовішча магчыма збудаваць руднік з гадавой вытворчасцю 14 млн. т руды і тэрмінам існавання 30 гадоў. Руды прыдатныя для перапрацоўкі на Беларускім металургічным заводзе (г. Жлобін). У гэтым раёне вядомы шэраг рудапраяўленняў жалеза – Аталез, Сула, Рубяжэвіцкае.

***(Працяг будзе.)***

*Мы і свет*

## І ў Лунінцы

На першы погляд, гэта вымаўляецца вельмі гучна: Лунінец і ўся планета. Але ў свой час выдатны беларускі пісьменнік Кузьма Чорны, спалучаючы ў сваёй творчасці наша і сусветнае, неаднойчы падкрэсліваў свой тэзіс, які можна вызначыць прыкладна так: з акна Цімкавіч (блізкіх яму мясцін) – на (у) свет вялікі!

Вось на прыкладзе Лунінецкага раёна было вырашана паразважаць, як зберагаць прыроднае багацце – жывёльны і раслінны свет, зямлю, пагрозу недахопу вады. І гэта адбылося на семінары ў межах Праграмы развіцця ААН, а ўдзел у ім бралі вучоныя з НАН Беларусі, БДУ, Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя. Тэарэтычная частка семінара праходзіла ў Лунінецкім ліцэі-інтэрнаце, дзе навучэнцы праводзяць сваю даследчую, выхаваўчую работу ў пазначаным накірунку.

*Грамадскія музеі*

**Гісторыка-краязнаўчы музей Шацкай сярэдняй школы** знаходзіцца ў вёсцы Шацк Пухавіцкага раёна. Заснаваны 3 мая 1981 года. Агульная плошча – 55 м². Сярод кіраўнікоў – па зборы матэрыялаў і афармленні экспазіцый – настаўнікі Т. Ф. Каралёва, Н. Р. Гайко. Першапачатковая колькасць экспанатаў – 120. Матэрыялы, сабраныя і выстаўленыя ў музеі, падраздзяляюцца на наступныя тэмы: "Вёска ў далёкім мінулым", "Быт і культура", "Вёска ў гады вайны", "Раслінны і жывёльны свет", "Сучасны Шацк", "Знакамітыя людзі вёскі". Вёска (раней – мястэчка) Шацк з 1492 года – уласнасць Кішкаў, з 17 ліпеня 1924 да 4 жніўня 1927 – цэнтр Шацкага раёна Мінскай акругі.

Краязнаўцамі школы падрыхтаваны "Летапіс вёскі Шацк", рукапісны даведнік "Знакамітыя людзі". У музеі знаходзіцца гербарый 1920–1930-х гадоў XX стагоддзя, матэрыял для якога сабраны ў ваколіцах вёскі Шацк. Зараз асноўныя фонды музея складаюць 293 экспанаты. Музеем кіруе настаўніца гісторыі Н. М. Вайцяховіч, аўтар кнігі "Шацк", выдадзенай у 1998 годзе мінскім выдавецтвам "Пейто" ў серыі "Ведаць свой край – Беларусь".

***Алесь КАРЛЮКЕВІЧ***





*Школьны юбілей*

# А можа, будзе і ліцэй

***У Ракаўскай сярэдняй школы – юбілей, ды яшчэ які! 140 гадоў таму ў мястэчку пачало працаваць народнае вучылішча, якое, мяняючы з гадамі свой воблік і назву, стала сённяшняй адзінаццацігодкай. Зразумела, і да гэтага часу далёка не ўсе ракаўцы былі непісьменнымі, неадукаванымі. Так, яшчэ ў XVI–XVII ст. у Ракаве існавалі дамініканскі і базыльянскі кляштары, а пры іх – прыходскія школкі, дзе вучылі мясцовых дзетак не толькі маліцца, але чытаць, пісаць і лічыць. Тым не менш, 1863 год – «чырвоная» дата ў гісторыі свецкай адукацыі на Ракаўшчыне. Як, дарэчы, і ва ўсёй Беларусі: у гэтым годзе ў «Северо-Западном крае» па царскаму «всемилостивейшему указу» было дазволена адчыняць народныя вучылішчы...***

За 140 гадоў на Ракаўшчыне адзінаццаць разоў мяняліся ўлады: царская расійская, савецкая (1917), нямецкая кайзераўская (1918), зноў савецкая (1918), польская (1919 –1920), зноў савецкая (ліпень 1920 –сакавік 1921), зноў польская (сакавік 1921 – верасень 1939), зноў савецкая (верасень 1939 – чэрвень 1941), нямецка-фашысцкая (25 чэрвеня 1941 – 5 ліпеня 1944), зноў савецкая. Нарэшце мы сталі жыць пры ўладзе незалежнай Рэспублікі Беларусь (з 27 ліпеня 1990г.)...

У школе вучылі то па-руску, то па-польску, то па-нямецку, то па-беларуску. Аднак якая б улада, якая б мова выкладання ні былі (у пасляваенны час Ракаўская СШ была і застаецца беларускай), разумныя настаўнікі заўсёды прытрымліваліся правіла: выхаванне павінна пачынацца з Айчыны і весціся ў імя Айчыны. Менавіта гэта дапамагала выхоўваць не толькі будучых выдатных спецыялістаў, але і сапраўдных патрыётаў Ракаўшчыны і ўсяе Бацькаўшчыны, захоўваць саму беларускую нацыю ад духоўнай дэградацыі, асіміляцыі, русіфікацыі, паланізацыі ці германізацыі.

За 140 гадоў школу скончылі сотні вучняў, толькі ў пасляваенны час (першы выпуск дзесяцігодкі адбыўся ў 1951 годзе) – звыш трох тысяч. Многія з іх уславілі родны край сваёй працай, сталі вядомымі дзяржаўнымі і палітычнымі дзеячамі, навукоўцамі, работнікамі асветы, літаратуры, культуры, аховы здароўя, военачальнікамі. Сярод іх – Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь на Украіне Валянцін Вялічка, народны артыст Беларусі Яраслаў Еўдакімаў, в. а. рэктара Магілёўскага дзяржаўнага універсітэта імя А. Куляшова доктар філасофскіх навук Міхаіл Вішнеўскі, генерал-маёр Сяргей Варэнік, контр-адмірал Зігмунд Жабко, дырэктар Віцебскага дзяржаўнага драматычнага тэатра імя Я. Коласа заслужаны артыст Беларусі Рыгор Шацька, прэзідэнт Беларускай акадэміі выяўленчага мастацтва Фелікс Янушкевіч, вядомы скульптар Валяр'ян Янушкевіч, пісьменнікі Марыя Вайцяшонак, Язэп Янушкевіч, навукоўцы прафесары і дацэнты Раман Руткоўскі, Валерый Раманчык, Тадэвуш Маеўскі, Людміла Чарнавусава і інш. Заслуга ў адукацыі і выхаванні гэтых асобаў – найперш школьных настаўнікаў, людзей мудрых, самаадданых, таленавітых, такіх, як былы дырэктар школы, вядомы краязнавец (імя яго цяпер носіць школьны краязнаўчы музей) Васіль Налецкі. Знамянальна, што асобныя з ракаўскіх настаўнікаў з часам сталі кандыдатамі і нават дактарамі навук (Мікалай Мяцельскі, Аляксей і Зінаіда Зяневічы, Пётр Жураўскі, Валянцін Рабкевіч і інш.). Усё гэта стварала і стварае своеасаблівы культурны мікраклімат самога мястэчка, усяго Валожынскага раёна і нават шырэй – Беларусі, абумоўлівае прыцягненне да Ракаўшчыны неабыякавых да роднай гісторыі і культуры людзей.

Пра ўсё гэта гаварылася на юбілейным вечары, што адбыўся ў Ракаўскай СШ напярэдадні новага 2004 года, у выступленнях яе цяперашняга дырэктара Пятра Дубаўца, прадстаўнікоў мясцовых, раённых і абласных улад, шматлікіх гасцей – выпускнікоў школы. А яшчэ – пра сённяшнія дасягненні школы ў навучанні, спорце, грамадскай працы, мастацкай самадзейнасці, адзначаныя рознымі рэспубліканскімі, абласнымі і раённымі граматамі, прызамі, узнагародамі. Скажам, Ракаўская СШ – адзіная ў Беларусі (а, магчыма, і не толькі) вясковая школа, на базе якой ужо чатыры разы праходзілі міжнародныя краязнаўчыя навукова-практычныя канферэнцыі – Ракаўскія чытанні (у 1996–2000 гадах), на якія з'язджаюцца вядомыя вучоныя не толькі з блізкага, але і з далёкага замежжа. У прыватнасці, на гэтых чытаннях двойчы выступалі вядомы польскі беларусіст Базыль Белаказовіч і знакамітая паэтэса з Лондана, перакладчыца беларускай паэзіі на англійскую мову Вера Рыч, якая, дарэчы, прысвяціла Ракаву свой арыгінальны акраверш. Школьныя падзеі пастаянна знаходзяць адлюстраванне на старонках мясцовай шматтыражкі «Ракаўскі шлях», асобныя настаўнікі (Леакадзія Налецкая, Фаіна Салавей) з'яўляюцца членамі рэдкалегіі газеты. Культурную праграму чытанняў заўсёды ўпрыгожваюць выступленні папулярных школьных вакальных калектываў – класічнай «Элегіі» і фальклорнага «Вянка». Гэтыя калектывы з поўнай самааддачай выступілі і на юбілейным вечары...



*Віншуюць былыя настаўнікі Галіна Руткоўская і Зінаіда Зяневіч*

Так, многа добрых слоў было сказана пра школу – і ў вусных выступленнях, і ў віншавальных тэлеграмах тых, хто не змог прыехаць на юбілей (як, напрыклад, у вялікай і цёплай тэлеграме пасла В. Вялічкі). І калі выпускнік школы 1959 года, кандыдат тэхнічных навук Уладзімір Капусцін прапанаваў ператварыць Ракаўскую сярэднюю школу ў ліцэй, – шматлюдная зала падтрымала гэту прапанову бурнымі воплескамі. Школа, несумненна, вартая гэтага.

***Вячаслаў Рагойша,*** 
***прафесар, загадчык кафедры тэорыі літаратуры БДУ,*** 
***выпускнік Ракаўскай СШ 1958 года***

*Выстава*

# І для дзяцей, і для дарослых

Цікавая выстава прайшла ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры, дзе вучні падчас зімовых вакацый разам са старэйшымі змаглі пазнаёміцца з паштовымі маркамі на тэму «Прырода і чалавек». Калекцыя вялікая, больш за 4 000 экземпляраў. У ёй не толькі маркі, але і паштоўкі, канверты з розных краін свету, у тым ліку – і малавядомых. Зразумела, нямала экспанатаў прысвечана нашай флоры і фауне – «Прырода Беларусі», «Наш сябра – лес» і іншыя.



Цікавасць да выставы была вельмі вялікай. Увогуле, у калекцыянераў паштовыя маркі, што заклікаюць берагчы прыроду, карыстаюцца надзвычайнай папулярнасцю. А некаторыя калекцыі беларускіх філатэлістаў не толькі распавядаюць пра багацце нашых лясоў, рэдкія віды жывёл і раслін, але і знаёмяць з экзатычнымі прадстаўнікамі флоры і фауны.

*Ул. інфармацыя*

*Паэтычны салон*

# Пра маці, пра Радзіму

Паэтычны салон "Вянок", што месціцца ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча, парадаваў аматараў паэзіі сустрэчаю і гутаркаю з паэтам, перакладчыкам і аўтарам тэкстаў песень Васілём Жуковічам.

–Добра, што гэта не сустрэча з нагоды юбілейнай даты, – зазначыў Васіль Аляксеевіч, – а проста спатканне з сябрамі. Сюды прыйшлі і аматары паэзіі, і тыя, з кім я супрацоўнічаю.

А напачатку ж ён пазнаёміў з дачкою Жэняй, якая «абрала не шлях камерцыі, а стала артысткай». Шчаслівы бацька распавёў пра яе тэатральныя клопаты, а потым Жэня чытала бацькавы вершы і ўрывак з прозы, падзялілася сваімі развагамі над творчасцю таты.

Даўнія творчыя сувязі ў паэта з кампазітарам Аленай Атрошчанка. Частку сумеснай працы яны і паказалі на вечарыне – сюды завіталі маладыя спевакі, якія з часам могуць стаць годнымі канкурэнтамі вядомым ужо выканаўцам. Прачулыя песні пра маці, родны край, пра сяброў, цікавыя мелодыі кранулі прысутных.

Прыйшлі прывітаць калегу, пачуць своеасаблівую справаздачу пісьменнікі Леанід Дранько-Майсюк, Уладзімір Мазго, Уладзімір Арлоў, музейшчыкі...

***Уладзімір ПУЧЫНСКІ***

# Музею — самавар, піла, вершы...

## Горацкі гісторыка-этнаграфічны музей адзначыў сваё 85-годдзе з дня заснавання і 15 год дзейнасці пасля адраджэння

У сваім інтэрв'ю газеце напярэдадні гэтай падзеі дырэктар музея У. М. ЛІЎШЫЦ даволі грунтоўна расказаў аб гісторыі стварэння музея, яго шматграннай дзейнасці, таму, каб не паўтарацца, раскажам толькі аб тым, як прайшла ўрачыстасць.

Вёў вечарыну загадчык аддзела культуры Горацкага райвыканкама Сяргей Васільевіч Папоў. Адзначыўшы тую выдатную ролю, якую адыгрывае музей у духоўным жыцці горада і раёна, вядучы запрасіў да мікрафона У. М. Ліўшыца. Уладзімір Маісеевіч нагадаў пра тое, як гэта было, назваў тых, дзякуючы каму стала магчымым заснаванне музея, расказаў пра зробленае калектывам за 15 год.

Зала апладысментамі вітае ганаровага госця – вядомага беларускага пісьменніка Генрыха Далідовіча, аўтара двух дзесяткаў кніг, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі ў галіне літаратуры. Нягледзячы на вялікую пісьменніцкую працу, Генрых Вацлававіч працуе на пастаяннай аснове першым намеснікам галоўнага рэдактара рэспубліканскай «Краязнаўчай газеты». Пісьменнік расказаў прысутным пра сябе, сваю творчасць, пра тое, над чым працуе, падзяліўся ўражаннямі аб Горках, дзе яму дагэтуль не прыходзілася бываць. Не мінуў выказаць свайго захаплення ад экскурсіі па акадэмгарадку, нагадаў пра музейную справу ў Бялыніцкім раёне, дзе нядаўна пабываў і праводзіў у мясцовых школах мастацкія чытанні. А потым выканаў пачэсную місію і ўручыў ганаровыя дыпломы Беларускага фонда культуры тым, хто стаяў ля вытокаў заснавання і адраджэння музея ў Горках. Уладальнікамі іх сталі: былы першы сакратар Горацкага гаркама партыі Г. С. Яскевіч, былы сакратар гаркама Н. Г. Ануфрыева, якая цяпер працуе дырэктарам рэспубліканскага аздараўленчага лагера для дзяцей і школьнікаў «Зубраня», тагачасны загадчык аддзела культуры райвыканкама Р. Я. Макееў і начальнік Горацкага УКПП «Камунальнік» М. М. Нікіценка. Кожны з іх, выказваючы ўдзячнасць за тое, што пра іх не забыліся, штосьці дарыў юбіляру і жадаў у адказ. «Хачу ўручыць гэты падарунак чалавеку, без якога не было б у Горках музея», – сказала Н. Г. Ануфрыева і ўручыла яго У. М. Ліўшыцу.

Р. Я. Макееў, пасля таго як выканаў па даручэнні сваёй жонкі, кампазітара В. С. Макеевай, і паэтэсы Ніны Кавалёвай іх песню, ад сябе падарыў экспанаты для аддзела этнаграфіі – вялікую пілу для ручной распілоўкі бярвення і іншы «дзедаўскі» сталярны інструмент. І выказаў спадзяванне, што з такім інструментам этнаграфічны аддзел будзе дабудаваны.

Рэдкім экспанатам – дарагім антыкварным самаварам – аддзячылі калектыў Горацкага музея калегі з абласнога краязнаўчага. Дырэктар В. М. Аненкаў пры гэтым сказаў: «За тое, што вы – лепшы музей у вобласці, а можа, і ў рэспубліцы па рабоце з людзьмі, пісьменнікамі і мастакамі». І ўручыў таксама Ганаровую грамату Упраўлення культуры аблвыканкама кіраўніку мастацкага аб'яднання «Роднае слова» С. С. Скаромнай.

Прывітальны адрас ад рэктарата акадэміі калектыву музея зачытаў і ўручыў першы прарэктар В. С. Сяргееў, а прафесар, загадчык кафедры сельгасмашын А. В. Клачкоў сказаў: «Гораду і акадэміі пашанцавала, што працуе такі чалавек. А дару грошы – царскія – і кветкі».

«Муза Клио – покровительница музеев», – кажа вядучы, а ў нас такая – намеснік старшыні райвыканкама Н. В. Карнеева. Наталля Васільеўна шчыра павіншавала калектыў музея са святам і падарыла яму цікавую кнігу аб Мазавецкім ваяводстве Польшчы, якую прывезла з горада Гарволін, пабраціма Горак.

На факс музея паступіла віншавальная тэлеграма ад Ларысы Уладзіміраўны Пакуш, Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Рэспублікі Беларусь у Казахстане вось такога зместу: «У. М. Ліўшыцу. Прыміце мае самыя шчырыя віншаванні ў сувязі з 15-годдзем заснавання Горацкага гісторыка-этнаграфічнага музея. За гэтыя гады музей стаў сапраўдным культурным і грамадскім цэнтрам, вядомым далёка за межамі раёна.

Ваша нязгасная энергія, Ваш энтузіязм у многім спрыялі актывізацыі гістарычных даследаванняў аб нашым раёне і яго папулярызацыі ў Беларусі».

Музей прымаў віншаванні і падарункі ад калег: дырэктара школы мастацкіх рамёстваў І. А. Беляковай, дырэктараў раённай бібліятэкі І. А. Зеньковіч, кінавідэапрадпрыемства В. М. Дарковіча, Дома рамёстваў З. У. Чандаковай, музея акадэміі Т. У. Лосевай і музея Горскай сярэдняй школы Р. Л. Мірончыкавай, кіраўніка мастацкага аб'яднання «Лазінка» Т. А. Багдановіч і іншых. Свае вершы прысвяцілі музею мясцовыя паэты Л. Г. Васільеў і С. А. Цярэшка.

У заключэнне ганаровымі граматамі аддзела культуры былі ўзнагароджаны ўсе работнікі музея, а пераможцай юбілейнай віктарыны стала вучаніца Копцеўскай сярэдняй школы Оля Мініна, за што была ўдастоена падарунка і падпіскі на «Краязнаўчую газету».

***П. ДЗЕТЛІКОВІЧ***





*У тэатры «Зьніч»*

# Сівая легенда і светлы сум

**Беларускі паэтычны тэатр аднаго акцёра «Зьніч», якім кіруе знакамітая актрыса Галіна Дзягілева, працуе ў тэатральнай зале касцёла св. Сымона і св. Алены, што на плошчы Незалежнасці ў Мінску. Сёлета ў іх чатырнаццаты тэатральны сезон. За гэты час прайшло нямала вартых увагі пастановак. Давайце разам пазнаёмімся з пастаноўкамі. Тым больш, у кожнага з вас ёсць магчымасць пабачыць іх.**

Паэтычны монаспектакль паводле твораў Яўгеніі Янішчыц пройдзе 9 лютага. Выканаўца – заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь Ларыса Горцава. Апроч вершаў, прагучаць народныя песні з радзімы Янішчыц, мелодыі на скрыпцы і гармоніку.

Максіму Багдановічу Вячаслаў Статкевіч і музыка-гітарыст Сяргей Сарокін прысвяцілі музычна-паэтычны монаспектакль «У краіне светлай...», які пройдзе 10 лютага. У аснову пакладзены «Апокрыф» Максіма пра Музыку, дзе ёсць атаясамленне паэта і ягонага героя. Добрая аздоба – песні на вершы Багдановіча, прачулыя мелодыі.

16 лютага зранку пройдзе монаспектакль Сяргея Кавалёва «Маленькі Анёлак» паводле вершаў Кармэна Барноса дэ Гаштольда. Гэта гісторыя пра суперажыванне і жаданне зразумець іншых, дапамагчы пакрыўджаным.

А ўвечары можна будзе перанесціся ў пачатак XVI ст. з героямі «Сівой легенды» Уладзіміра Караткевіча. Монаспектакль «Нобіль – барвяны ўладар» выконвае заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Уладзімір Шэлестаў. Тагачасныя жыццё ды падзеі паказаныя вачыма наёмнага швейцара. Галоўная выснова з ягоных назіранняў такая: «Будзе жыць зямля, калі ёсць ахвярныя людзі».

Такія пастаноўкі тэатра «Зьніч» можна будзе пабачыць у бліжэйшы час, пачатак іх а 19 гадзіне. Нешта ўдакладніць можна па тэлефонах: 220-56-32 і 231-75-53.



**На здымку:** Мышка ў спектаклі «Маленькі Анёлак» у выкананні Раісы Астрадзінавай

*Задумаемся*

# Аднабокая нейкая памяць,

## ці Прагулянка па мінскіх вуліцах

Калі параўнаць горад з жывым арганізмам, то ягоныя вуліцы – гэта своеасаблівыя жылы і сасуды, якія забяспечваюць жыццё. Напэўна, таму жыхары розных краін намагаюцца закласці ў назвы вуліц аснову свайго менталітэту (тое, што ідзе ад складу розуму, характару, пачуццяў і мыслення. – «КГ»), ушаноўваючы і ўвекавечваючы імёны знакамітых дзеячаў мастацтва і літаратуры, выдатных асоб розных эпох, якімі ганарыцца народ.

Якое ўражанне складваецца ў кожнага, хто прагульваецца па мінскіх вуліцах? Давайце ўявім сабе чалавека, які ўпершыню трапляе ў наш горад і жадае дачыніцца да яго культурна-гістарычных каштоўнасцяў.

Скажам, уязджае госць у сталіцу з Брэсцкай шашы – і прамаездным шляхам трапляе на праспект *Дзяржынскага*, што перакрыжоўваецца з вуліцай *Клары Цэткін*, нямецкай рэвалюцыянеркі. Далей падарожны, імкнучыся трапіць у цэнтр, едзе па вуліцы *Савецкай* і дабіраецца да плошчы, якая ў метро называецца *«Плошча Леніна»*. Далей, рухаючыся па вуліцы *Свярдлова* і паварочваючы на *Кірава*, ён не абміне і вуліцы *К. Маркса* і *Ленінскую*. Асаніўшы пачуццё гумару мясцовых жыхароў, наш госць апынецца на *Кастрычніцкай* плошчы і, павярнуўшы на вуліцу *Энгельса*, захоча хутчэй пакінуць горад памяці, на жаль, пераможцам рэвалюцыі і незбытнага камунізму...

Нехта скажа, што гісторыю трэба помніць, якой бы яна ні была. Згодна. Але чаму нейкая аднабокая гэта гісторыя ў нас выходзіць. Быццам да 1917 года і жыцця не было на гэтай зямлі – не тое што слаўных, гераічных падзей і выдатных асоб. Перакос, ды яшчэ які! І ён міжволі кідаецца ў вочы, хоць мінчане, здаецца, даўно ўжо звыкліся з гэтым абсурдам .

Скажыце, што талковае можна пабудаваць на падмурку з перакосам? Ці, калі параўноўваць вуліцы з крывяноснай сістэмай, то якое жыццё могуць падтрымліваць састарэлыя жылы з няздатнай крывёю?

***Інга БАРАДЗІНА,***
***«Народная воля»***
***Пераклад з рускай мовы***

*Скульптурныя навіны*

# Зубр ёсць зубр

Якія сімвал, значэнне ўяўляў гаспадар нашых лясоў зубр, яшчэ ў XVI стагоддзі бліскуча апісаў паэт Мікола Гусоўскі ў паэме «Песня пра зубра». Але, безумоўна, найбольшае права маюць ганарыцца гэтай магутнай жывой істотаю брэсцкія насельнікі, якія жывуць побач. Яны і ўганаравалі свайго земляка ў сімвале – на мяжы Мінскай і Брэсцкай абласцей каля вёскі Петкавічы Баранавіцкага раёна ўстанавілі металічную скульптуру з выявай зубра. Ва ўганараванні выявілася вялікая павага: выява і высокая, і важкая – 20 метраў і 76 тон, што падкрэслівае яе магутнасць і веліч. Брэсцкія насельнікі жадаюць бачыць выяву зубра і на гербе вобласці.

***Імя беларускага рэлігійнага, палітычнага і культурна-асветнага дзеяча, рэдактара часопіса «Хрысціянская думка» Адама Станкевіча (1891–1949) паціху вяртаецца з небыцця. Ужо надрукаваны яго многія працы, напісаны пра яго артыкулы, успаміны. Да друку рыхтуецца і кніга ягоных твораў. Да вайны Адам Станкевіч пэўны час жыў у Слоніме і вёў богаслужэнне ў касцёле бернардзінак, які знаходзіцца ў цэнтры горада. А выслалі яго сюды з Вільні за тое, што быў беларускім святаром і вёў службу на беларускай мове.***

# Адам Станкевіч у Слоніме



Так, 27 снежня 1938 года выехалі з Вільні выселеныя з прыгранічнай паласы на пяць гадоў рашэннем віленскага ваяводы ксёндз Адам Станкевіч, ксёндз Уладзіслаў Талочка і інжынер Адольф Клімовіч. Уладзіслаў Талочка пасяліўся ў Беластоку, Адольф Клімовіч – у Варшаве, а Адам Станкевіч – у Слоніме. Праўда, ён яшчэ паспеў перад высяленнем выдаць у Вільні сваю чарговую кніжку «Беларускі хрысьціянскі рух». Новы 1939 год ксёндз Адам Станкевіч сустрэў у Слоніме. Акрамя службы ў касцёле бернардзінак (служыў па-польску, па-беларуску польскія ўлады не дазволілі), шмат пісаў на роднай мове, перапісваўся з беларусамі з Вільні, Беластока, Варшавы, Прагі, Мінска, Санкт-Пецярбурга і іншых гарадоў. У Слоніме Адам Станкевіч напісаў вялікую працу «З літуанізмаў у беларускай мове» і надрукаваў яе ў алфавітным парадку ў некалькіх нумарах квартальніка «Калосьсе». Праца гэтая выклікала вялікі рэзананс.



Жывучы ў Слоніме, Адам Станкевіч пільна сочыць за выхадам новых беларускіх кніг. 27 красавіка 1939 года ён піша грунтоўную рэцэнзію на кніжку беларускага паэта і даследчыка Хведара Ільяшэвіча «Друкарня дома Мамонічаў у Вільні (1575–1622)» і друкуе яе ў часопісе «Калосьсе» (1939, № 2). Крытык спыняецца на кожным з пяці раздзелаў працы Хведара Ільяшэвіча, указвае на іх каштоўнасць і значэнне.

«Кніжка Хв. Ільяшэвіча – гэта значны ўклад у маладую беларускую навуку. Агульнай, аднак, нястачай кніжкі зьяўляецца нявыразны яе воблік беларускі. Мамонічы – гэта беларускія патрыёты й беларускія культурнікі, й кніжкі іх прызначаны для беларускага народу. Тымчасам гэта ў Хв. І. ня толькі што з націскам не адзначана, але нават як-бы сарамліва прыхавана пад бліжэй неазначанымі тэрмінамі: «Русь, рускі, патрыёт, Вял. Кн. Літоўскае» і інш. Я разумею, што да гэткай «саромлівасьці», што да беларускасьці прымушалі аўтара абставіны, у якіх праца была пісана й выдана. Затое цяпер аўтар павінен сваю цэнную працу пераложыць на беларускі язык, паставіць «беларускія точкі» над усімі «і», раскрыць усе «дужкі», паставіць, дзе трэба, «беларускія нацiскі» і... па-беларуску выдаць. Але хто выдасьць? Гэтая кніжка мусіць праявіць сваю беларускую «душу» й мусіць прыадзецца ў сваю беларускую «вопратку».

За слонімскі перыяд жыцця кс.Адамам Станкевічам быў напісаны яшчэ шэраг артыкулаў і рэцэнзій. Тут, у Слоніме, ён дапамог мясцоваму паэту Анатолю Іверсу (Івану Міско) наладзіць сувязі з Вільняй наконт выдання яго першага паэтычнага зборніка «Песьні на загонах». Пра гэта пры жыцці не раз расказваў мне ў Слоніме наш старэйшы паэт. Яны сустрэліся ў Слоніме ў 1939 годзе. І была на гэта нагода. Выдавецтва «Калосьсе» рыхтавала да друку зборнік вершаў Анатоля Іверса «Песьні на загонах». Рэдактар выдавецтва Ян Шутовіч, ведаючы, што паліцыя на вёсцы правярае, а часам і забірае карэспандэнцыю, карэктурныя лісткі зборніка прыслаў у касцёл у Слонім Адаму Станкевічу, а паэту напісаў пісьмо, каб той абавязкова зайшоў да ксяндза, што Іверс і зрабіў.

Гаспадар доміка, які знаходзіўся на касцельнай тэрыторыі, сустрэў слонімскага паэта ў сваім пакоі па-хатняму, без сутаны:

– Ведаю, ведаю пра Вас. Вось карэктура Вашай кнігі, уважліва прачытайце і зрабіце папраўкі, калі знойдзеце памылкі.

Малады Анатоль Іверс усхваляваўся, убачыўшы надрукаваныя на лістках свае вершы. Вочы сталі вільготнымі, і ён хутчэй па памяці, чым зрокава, пачаў чытаць вершаваныя радкі. Сям-там на палях ужо былі вынаскі літар, зробленыя Адамам Станкевічам. Першы раз слонімскі паэт спасцігаў карэктурную мудрасць і бадай не знайшоў ні адной незаўважанай і непапраўленай памылкова набранай у тэксце літары. Пасля яны яшчэ доўга гутарылі, а напрыканцы сустрэчы Адам Станкевіч спытаў, ці надакучае паліцыя.

– Яшчэ як дакучае, – сказаў Іверс, – лазіць па пятах, забірае з паштовага агенцтва беларускія і ўкраінскія газеты. Арыштоўвае хлопцаў перад святамі, рэдка абыходзіцца без катаванняў у дэфензіве. Забараняе ставіць беларускія спектаклі...

– Вось што, браток, не трэба лезці на ражон, – параіў Адам Вікенцьевіч. – Хоць, праўда, і я не ўсцярогся, бачыце, саслалі з Вільні ў Слонім. І тут не дазволілі ў касцёле праводзіць службу на беларускай мове...

На развітанне Адам Станкевіч запрасіў слонімскага паэта заходзіць часцей. Але больш ім сустрэцца не ўдалося, хоць пражыў ён у горадзе над Шчарай амаль год. На працягу года Адаму Станкевічу і Адольфу Клімовічу з Варшавы адзін раз усё ж дазволілі наведаць Вільню. Гэта адбылося ў 1939 годзе на велікодныя святы. А восенню таго ж года са Слонімам Адам Станкевіч развітаўся назаўсёды.

***Сяргей ЧЫГРЫН***





***Часта ў маскоўскім і ў нашым, найчасцей, незалежным друку можна сустрэць спісы, што складаюцца рэдакцыямі нібыта ў выніку шырокіх апытанняў, скажам, пра самыя вядомыя ці папулярныя выданні не толькі апошняга часу, але і мінулага стагоддзя. У больш-менш дасведчанага чытача часамі гэтыя спісы пераможцаў выклікаюць, мякка кажучы, здзіўленне: у спісе лепшых твораў мастацкай літаратуры XX стагоддзя вы можаце не пабачыць такіх майстроў, як Л. Талстой, А. Чэхаў, М. Шолахаў, Я. Купала і Я. Колас, затое "кнігай стагоддзя" могуць назваць звычайную халтуру, як па тым жа тэлебачанні пошласць – "народным, сусветным кіно", "кіно стагоддзя".***

***Летась не выцерпеў, пагартаў розныя энцыклапедыі па беларускай мове, культуры і гісторыі: а што ў нас з выданняў можна назваць вызначальнымі? І што здзівіла, але ўжо хораша: у 2003 годзе было шмат юбілеяў выданняў; многія з іх не проста юбілейныя, а з тых, без якіх магло б і не быць беларускай нацыі з яе самабытным духоўным жыццём.***

*А ваш погляд?*

# Выданні, якія абладзілі нас

## КНІГІ

Да XV стагоддзя ў духоўным жыцці нашага люду значную ролю адыгрывалі рэлігійная літаратура, запазычаныя і арыгінальныя летапісы (у 1446 годзе ўжо з'явіўся першы агульнадзяржаўны летапісны звод ВКЛ), якія вывучалі, перапісвалі, перараблялі, каб ведаць сваю гісторыю, культуру, надаць ім сваю канцэпцыю. Многіх аўтараў, перапісчыкаў мы не ведаем. Але XVI стагоддзе мяняе сітуацыю – развівае кнігавыданне і становяцца вядомымі імёны аўтараў ды выдаўцоў – буйнейшых вучоных, культурных дзеячаў свайго часу.

Вось сёе-тое з майго спісу з 2003 года:

495 гадоў таму, 2, 9, 19 студзеня, у жніўні 1518 года Ф. Скарына працягвае выдаваць Біблію. З 6 жніўня 1517 па 15 снежня 1519 выпусціў 23 яе кнігі. Выступіў перад землякамі і цывілізаваным светам як перакладчык, рэдактар, гісторык, філосаф, пісьменнік, мастак-афарміцель, друкар-паліграфіст, знаўца беларускай літаратурнай мовы, краязнавец і пачынальнік энцыклапедычнай навукі.

480 гадоў таму, у 1523 годзе, М. Гусоўскі выдае "Песню пра зубра", дзе знаёміць Еўропу з беларускай прыродай, гісторыяй і культурай. (У тым жа XVI стагоддзі С. Будны выдае ў Нясвіжы "Катэхізіс", па якім пэўны час вывучалі беларускую мову, а В. Цяпінскі каля Лепеля – "Евангелле" на царкоўна-славянскай і беларускай мовах са сваёй прадмовай, а ў XVII стагоддзі, у 1618-м годзе (395 гадоў таму), С. Рысінскі – у Любчы – фальклорны зборнік, дзе 1800 мясцовых беларускіх прыказак параўнаў з лацінскімі, нямецкімі, італьянскімі і іншымі. У XVII стагоддзі – яшчэ яркія творы: "Прамова Мялешкі" і "Ліст да Абуховіча", што надавалі новы імпульс грамадскаму жыццю, народнасць і дэмакратызм беларускай літаратуры).



180 гадоў (можа, і меней) ананімнай паэме "Энеіда навыварат" (пасля 1812 – на самым пачатку 1830-х) – твору, які пасля змрочнага ў антыбеларускасці XVIII стагоддзя, яшчэ цяжэйшага пачатку XIX, заклаў асновы новай беларускай літаратуры. Адзін з першых беларускамоўных твораў – верш "Дзеванька" – быў напісаны Я. Баршчэўскім у 1809 годзе, 195 гадоў таму. Пазней іхнія традыцыі прадоўжаць ананімная паэма "Тарас на Парнасе" і першы прафесійны беларускі пісьменнік В. Дунін-Марцінкевіч.

95 гадоў таму, у 1908 годзе, пабачыў свет першы зборнік паэзіі Я. Купалы "Жалейка", што азнамяноўваў пачатак новага этапу развіцця беларускай паэзіі.

90 гадоў таму, у 1913 годзе, М. Багдановіч выдаў свой першы зборнік "Вянок" і ў юным узросце пашырыў, паглыбіў межы, жанры беларускай паэзіі.

80 гадоў таму, у 1923 годзе, Я. Колас ажыццявіў першае выданне сваёй неўміручай паэмы "Новая зямля", як усімі прызнана, – паэтычнай энцыклапедыі жыцця беларусаў на мяжы XIX–XX стагоддзяў.

## ГАЗЕТЫ

140 гадоў таму, у 1863 годзе, выйшаў першы нумар "Мужыцкай праўды" К. Каліноўскага – першай нелегальнай і дэмакратычнай беларускамоўнай газеты, якая рашуча крытыкавала грабежніцкую палітыку царскага ўрада пасля рэформы 1861 года ў адносінах да вёскі і сялян, распрацоўвала нацыянальна-дзяржаўную канцэпцыю беларускага народа.

85 гадоў таму, у 1918 годзе, у Пецярбургу пачала выходзіць першая савецкая газета на беларускай мове, орган савецкага Беларускага нацыянальнага камісарыята.

Як вядома, на год раней, у 1917 годзе, у Мінску з'явілася газета "Вольная Беларусь", якая спачатку выступала за культурна-нацыянальную і дзяржаўную аўтаномію Беларусі ў складзе будучай дэмакратычнай федэратыўнай Расіі. Пасля абвяшчэння БНР газета пачала выступаць за незалежную дэмакратычную Беларусь. "Дзянніца" асвятляла падзеі ў Савецкай Расіі, вяла культурна-асветную работу сярод бежанцаў-землякоў і рыхтавала глебу для ўтварэння БССР – беларускай дзяржавы на савецкай платформе. Адзін з яе рэдактараў Зм. Жылуновіч (Цішка Гартны) у 1919 годзе стаў першым старшынёй беларускага ўрада.

*Генадзь ДОЙЛІД*

***P. S. Зразумела, спіс асноватворчых для нашага народа, юбілейных у 2003 годзе кніжна-газетных выданняў няпоўны. Можна (трэба) і іншыя рэчы прызнаць неабходнымі.***

***І сёлетні 2004 год – не выключэнне. Таксама шмат юбілейных, важных выданняў. І, мабыць, новы спіс варта пачаць з Першага статута ВКЛ, які нашы цывілізаваныя продкі годна паказалі сабе і Еўропе ў 1529 годзе, гэта значыць 475 гадоў таму.***

***Якія вашы думкі і погляды, дапаўненні?***

*Музычны поспех*

# З Італіі — з багіняй Нікай

***У далёкі італьянскі горад ансамбль акардэаністаў "Туці" Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры летась накіраваўся трэці раз. У Кастэльфідардо, у многім вядомым дзякуючы сваім фабрыкам, якія выпускаюць прыстойныя акардэоны, мясцовая асацыяцыя музыкальнай прамысловасці наладзіла і штогод праводзіць міжнародны конкурс.***

Раней "Туці" прыязджаў у Кастэльфідардо ў 2000 годзе. І задаволіўся другім месцам. Да перамогі не хапіла ўсяго трыццаць тры сотыя бала.

Пасля той паездкі ансамбль цалкам аднавіўся. За яго пятнаццацігадовую гісторыю гэта быў ужо чацвёрты склад. Дзяўчынкі падабраліся не толькі таленавітыя, але і эмацыянальныя, з праявай радасці і засмучэння за свае поспехі і няўдачы. Менавіта такія і патрэбны былі Лідзіі Аляксандраўне Сухараравай (мастацкаму кіраўніку ансамбля), каб ажыццявіць мару і стаць пераможцамі ганаровага міжнароднага конкурсу.

Вялікую ўвагу Сухаварава ўдзяліла складанню той 25-хвіліннай праграмы, якую заснавальнікі конкурсу прапаноўвалі паказаць аўтарытэтнаму інтэрнацыянальнаму журы пад кіраўніцтвам Луіджы Даноры – прарэктара кансерваторыі імя Джузепе Вердзі ў Турыне.

Мастацкі кіраўнік, параіўшыся са сваімі выхаванцамі, вырашыла: "Туці" будзе выступаць у катэгорыі "Лёгкая музыка" – адной з чатырох, якія прапаноўваліся ўдзельнікамі фестывалю, на якім былі пасланцы амаль усіх краін Еўропы, з Бразіліі, ЗША, Кітая... У рэпертуары "курс" узялі на творы беларускіх аўтараў і аранжыроўшчыкаў. Падрыхтавалі зусім новую праграму. Увагу запынілі на "Карнавале Венецыі" (аранжыроўку на мяжы класічнай і лёгкай музыкі зрабіў кампазітар Сяргей Яновіч), двух вельмі складаных па апрацоўцы творах Васіля Глубачэнкі – калегі Сухараравай па універсітэце культуры, сюіце самабытнага аўтара з Мазыра Валерыя Сярэбранікава, версіі мелодыі "Вочы чорныя", што складалася з твораў Р. Вюртнера і А. Ван-Дама. А на завяршэнне выступлення ансамбля Л. Сухаварава прытрымала карэла-фінскую польку ва ўласнай апрацоўцы.



У Італію паехалі дзяўчаты-акардэаністкі: Людміла Абравец, Ганна Анцыферава, Ксеня Сірая, Вольга Аніськовіч, Юля Стасевіч. А разам з імі тры юнакі: Алег Вайтулевіч, які аддае перавагу ўдарным інструментам, і два бас-гітарысты – Сяргей Бурдзееў і Кастусь Варановіч.

Па накаванасці "Туці" павінны былі выступаць другімі. Але выпадкова ці наўмысна тыя, хто меўся выступаць на адкрыцці акардэаністаў у намінацыі "Лёгкая музыка", запазніліся. Заснавальнікі конкурсу пацікавіліся: а ці рызыкнуць беларусы пачаць першымі? Рызыкнулі.

Калі яны выходзілі на сцэну, некаторыя члены журы (па расказах групы падтрымкі нашага ансамбля) глядзелі на юных акардэаністак крыху насцярожана і нават з ухмылкаю. Маўляў, што гэта за фотамадэлі, якія пераблыталі подыум-памост са сцэнаю, з якой гучаць сур'ёзныя музыкальныя творы? Пасля выканання двух твораў выраз на тварах членаў журы пачаў мяняцца – ад здзіўлення да ўражання і нават адкрытага захаплення. А калі, развітваючыся, "Туці" выканаў заліхвацкую карэла-фінскую польку, то пальцы дзяўчат так шпарка бегалі па клавішах акардэонаў, што за імі нельга было ўсачыць...

Наш ансамбль атрымаў галоўны прыз – трыццацісантыметровую статуэтку ў выглядзе багіні Нікі, якая накрывае сваімі крыламі акардэон.

Перамога ў ганаровым міжнародным конкурсе – важны этап у творчым шляху выпускніцы Магілёўскага музычнага вучылішча і Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі (клас прафесара Міхаіла Солапава) Лідзіі Сухараравай. Яна дабілася таго, пра што марыла.

*Леанід ЮНЧЫК, «Рэспубліка»*



НА ЗДЫМКАХ: гэтыя дзяўчаты-прыгажуні сталі лаўрэатамі міжнароднага конкурсу; узнагарода, якую заваяваў ансамбль.

**Ад рэдакцыі.** *Ганарымся вамі, Лідзія Аляксандраўна і Людміла, Ганна, Ксеня, Вольга, Юля! Малайцы! А для чытачоў напомнім, што італьянскае слова "туці" літаральна азначае "ўсе", гэта значыць выкананне музычнага твора ўсім складам аркестра або хору.*





# Любоў генія

## Да 205-х угодкаў Адама Міцкевіча

Адам Міцкевіч – сусветна вядомы творца, які нарадзіўся, узрос на Наваградчыне, увабраў душой красу нашай прыроды, народных паданняў, песняў.

Драма яго чалавечага лёсу ў тым, што нашмат болей гадоў ён пражыў у выгнанні, у эміграцыі, чым на радзіме. Вінаваты ў тым палітычны рэжым самаўладдзя тагачаснай царскай Расіі, Расійскай імперыі. Драма Беларусі ў адносінах да Міцкевіча ў тым, што яна была бяспраўная, і мова наша родная не была прызнаная; Міцкевіч ствараў свае шэдэўры на польскай мове, у выніку чаго ва ўсіх даведніках ён і дагэтуль называецца польскім паэтам.

Але дух яго твораў – ліцьвінскі, гэта значыць, беларускі. Большасць вобразаў і матываў паэзіі была падказана Міцкевічу жыццём нашага народа, яго гераічнай і драматычнай гісторыяй, яго каласальнай вусна-паэтычнай спадчынай. На беларускім фальклоры заснаваныя вядомыя балады і рамансы, сярод якіх «Свіцязь», «Свіцязянка», «Курганок Марылі», «Лілеі», «Рыбка», «Тры Будрысы», асобныя часткі паэмы «Дзяды». З гісторыі Вялікага княства Літоўскага ўзяў Міцкевіч сюжэты сваёй «літоўскай» аповесці «Гражына» і «Конрада Валенрода». У паэтычнай эпапеі «Пан Тадэвуш» мы знаходзім цэлую галерэю яркіх вобразаў мясцовай шляхты, бачым цудоўную панараму народнага жыцця, чароўныя краявіды Наваградчыны, Налібоцкае пушчы. Яго інтымная лірыка асветлена глыбокім і трапяткім пачуццём кахання да беларускай дзяўчыны Марылі Верашчакі, якую называе ён (на паэтычны лад) Лаурай. У яго творах увекавечаны нашыя геаграфічныя найменні: Свіцязь, Нёман, Плужыны, Наваградак, Нясвіж, Вілля, Літва; вялікія князі ВКЛ; Айчына, край дзяцінства, паўсюль прысутнічае беларускі каларыт – усё тое, без чаго Адам Міцкевіч не ўспрымаецца, гэтак жа, як без беларусізмаў не ўспрымаецца і яго польская мова. Словам, уся творчасць слыннага сына нашае зямлі прасякнута шчырай сыноўскай любоўю да Бацькаўшчыны і настальгіяй па ёй. Гэта добра адчуваецца і ў прапанаваных чытачам газеты творах генія ў маім перакладзе на беларускую мову.

*Васіль ЖУКОВІЧ*



## Васіль ЖУКОВІЧ

### Акраверш

Адам Міцкевіч, геній светлы, знаны,
Дар Божы цябе ўславіў на ўвесь свет.
Ах польскамоўны любы наш паэт!
Між іншым толькі польскім скрозь названы.

Мы ведаем: Літвой[1] зачараваны,
Ішоў па свеце з вобразам яе...
Цябе нам не стае – час настае,
Каб стаў краінай нашаю прызнаны.
Еўропа й свет ці знаюць, дзе ты рос?
Выгнаннік быў: цару ж не спадабайся –
І лёс выгнанніка да скону нёс.
Чаму ж і пасля скону ім застаўся?

14 верасня 2003 г.

## Адам МІЦКЕВІЧ

### Да Нёмана

Нёман родны ты мой, запаветны, дзе воды,
Што калісь я ў дзіцячыя чэрпаў далоні,
А пасля заплываў з імі ў дзікія тоні –
Неспакойнаму сэрцу шукаў прахалоды?!

Тут Лаура глядзелася ў люстра прыроды,
Валасы заплятала, уквечвала скроні;
Мілы вобраз яе ў тваім срэбным улонні
Скаланаў я слязой захаплення й лагоды.

Запаветны мой Нёман, крыніцы дзе тыя,
З імі шчасце, надзеі, прыветлівасць лёсу?
Дзе маленства лятункі і цуды-дзівосы?

Дзе юнацтва бурлівага дні залатыя?
Дзе Лаура мая? Дзе сябры дарагія?
Ўсё прайшло, а чаму ж не прайшлі мае слёзы?

### Добры дзень

Дзень добры!.. Ты йшчэ спіш... Удзячны я імгненню:
У райскіх у садах яшчэ твой дух лунае
І заадно твой лік анёльскі ажыўляе, –
З аблокаў сонца так ідзе ды шле праменні.

Дзень добры! Ўжо ў вачах праменьчык абуджэння.
Дзень добры! Ўжо святло спакой твой разбурае,
У вокнах у цябе прыветна сонца грае.
Дзень добры! Я з табой, стаю у багавенні.

Сваёй красой маю ты смеласць адбіраеш.
Цяпер хачу адно надзею мець такую:
З ласкавым сэрцам ты... Тваю руку бяру я...

Дзень добры! Цалаваць руку не дазваляеш,
Мне кажаш адысці – хай будзе, як жадаеш.
Адзенься і выходзь – дзень добры падарую.

### Дабранач

Добрай ночы! Разыдземся ўжо,– добрай ночы!
Хай суцешыць цябе сну анёл сінякрылы,
Ноч хай дасць адпачынак вачам тваім мілым,
Хай лагода паселіцца ў сэрцы дзявочым.

Добрай ночы! Няхай табе радасць прарочыць
Развітальны гук, ціхі, з чароўнаю сілай,
Грае хай ў тваім слыху, каб ноччу сасніла
Голас мой; хай палашчаць мяне твае вочы!

Добрай ночы! Чакай! Хай прадоўжыцца свята!
Вусны, грудзі твае да зары цалаваў бы!
– Добрай ночы! – Ужо слугам знак падала ты?

Уцякаеш, а я ўсё за міг той аддаў бы!
– Добрай ночы! – шкада, што замок твой зацяты!..
Паўтараю: дабранач! Так спаць і не даў бы.

*З крымскіх санетаў*

### Пілігрым

Ля ног маіх – дастатку і красы краіна,
Блакіт над галавой, шмат поруч гожых твараў;
А ў край далёкі рвецца сэрца з роем мараў
І ў больш далёкія – на жаль! – часіны.

Літва! Мілей спявалі нашы баравіны,
Чымся Салгіра дзевы й салаўі Байдараў;
Я весялей таптаў дрыгву тваіх імшараў,
Чым ананасаў экзатычныя мясціны.

Па-рознаму людзей спакуса захапляе.
Што ж, як сляпы, ўздыхаю тут бесперастанку
Па той, што я кахаў, па ёй так прападаю?!

Яна ў краі, дзе мне ўжо больш не мець прыстанку,
Дзе ўсё нагадвае аб верным ёй каханку;
Ступіўшы на мой след, ці пра мяне згадае?

Перад бурай, снягамі

Пералётныя птахі прад бурай, снягамі
Пакідаюць радзіму з тужліваю песняй.
Не віні іх! Яны паляцяць парой веснай
У напрамку зваротным – сваімі шляхамі.

Голас іх ты пачуеш – выгнанца успомні!
Колькі раз пасля буры засвеціць надзея,
Столькі раз яго дух да цябе зноў на поўнач
Прыляціць, акрылёны, не збочыць нідзе ён.

6 красавіка 1829 г.

---

[1] Літвой называўся край, дзе жылі ліцьвіны, гэта значыць беларусы. – *Аўт.*

# Здраднік ці патрыёт?

*(Заканчэнне. Пачатак у № 3.)*

Зноў маёнтак пад Вільняй. Зноў перапіска, перамовы. Зноў узаемныя амбіцыі не даюць прыйсці да згоды. А тым часам польскі ўрад заключыў перамір'е з Хмяльніцкім. Яно было неабходна абодвум ваюючым бакам.

У Варшаве пачаўся сойм. 16 снежня 1650 года на ім з'явіўся Януш. Ён злажыў перад каралём захопленыя пад Лоевам сцягі і бунчукі казацкіх атрадаў. Сенат вымушаны быў узнагародзіць героя. Ва ўласнасць Радзівіла пераходзяць гарады Себеж і Невель. Кароль жа, са свайго боку, дае яму пасаду старосты Барысава. Аднак пры ўсім гэтым манарх вельмі насцярожана ставіцца да «літвіна». Яму даўно ўжо данеслі аб тым, што Радзівіл перапісваецца з гетманам Багданам Хмяльніцкім. Не падабаліся яму незалежныя, самаўпэўненыя паводзіны нашага земляка. Аднак палітыка ёсць палітыка. І Ян Казімір стараецца палепшыць свае адносіны з найбольш уплывовым «літоўскім» магнатам. Але дасягнуць гэтага хоць збольшага яму ўдалося толькі пасля таго, як войскі Багдана Хмяльніцкага напалі на Малдавію. Радзівіл прапаноўвае каралю ўтварыць антыказацкую кааліцыю. Па яго меркаваннях, у гэтую кааліцыю можна ўключыць Рэч Паспалітую, Малдавію, Трансільванію, нават крымскіх татараў. Яна Казіміра ўзрадавалі такія перспектывы. Ён не здагадваўся, што галоўнае прызначэнне гэтай кааліцыі (на думку Радзівіла) – не барацьба з казакамі, а сіла, з дапамогай якой можна прымусіць Польшчу скасаваць унію з Вялікім княствам Літоўскім.

Януш зноў ідзе на Кіеў. І зноў – бітва пад Лоевам. 16 ліпеня 1651 года яго войска сутыкнулася з казацкімі загонамі, якімі кіраваў атаман Нябаба. Ён перахапіў і амаль цалкам знішчыў пры пераправе два палкі Радзівіла. Потым добра «разжыўся» ў абозе. Усё гэта дало яму магчымасць у рэляцыі Багдану Хмяльніцкаму распісаць бітву як сваю перамогу. Але на самай справе перамагло войска Радзівіла. Сведчаннем з'яўляецца тое, што праз некалькі дзён пасля гэтай бітвы войска Радзівіла захапіла Чарнігаў, затым і Кіеў. Праўда, хутка гэты горад давялося пакінуць, бо жыхары падпалілі яго. Аднак перш чым выйсці з палаючага горада, Януш даручыў свайму мастаку перамаляваць фрэскі на сценах Сафійскага сабора.

Януш накіраваўся на злучэнне з польскім войскам. Прыбыў ён у іх лагер чацвёртага верасня. Планавалася, што аб'яднаныя сілы Кароны і Княства змогуць разбіць войска Хмяльніцкага. Аднак кароль не рашыўся на гэта. 29 верасня ён заключыў у Белай Царкве мір з Багданам Хмяльніцкім.

Слава аб рашучых дзеяннях Радзівіла пракацілася па ўсёй краіне. Яго параўноўвалі з палкаводцамі старажытнасці. На вуліцах натоўп крычаў яму: «Віват!». На сойме, які адбыўся ў Варшаве ў лютым наступнага года, ён расказваў аб дзейнасці і кароннага войска, і войска Вялікага княства. Здавалася б, усё выдатна. Але рост аўтарытэту і папулярнасці Радзівіла напалохаў польскіх (ды і не толькі польскіх) магнатаў. Па Варшаве папаўзлі плёткі. Пачаліся інтрыгі. Хтосьці пусціў пагалоску, быццам памёр вялікі гетман літоўскі Ян Кішка. Пачалі вырашаць, каму аддаць гэтую пасаду. Па ўсім выходзіла, што найбольш падыходзіць Януш Радзівіл. Але і кароль, і польскія магнаты пабаяліся зрабіць гэта. Пасада была паабяцана князю Паўлу Сапегу. Гэта настолькі абразіла Януша, што ён раптоўна пакінуў Варшаву. Усцешыла яго, але так і не зменшыла крыўду сустрэча з жывым і здаровым... Янам Кішкам. Радзівіл зразумеў, што падманная вестка аб смерці Кішкі была пушчана кімсьці са зласліўцаў.

Праз год пасля гэтых падзей на сойме ў Брэсце Януш пастараўся расквітацца. Ён запатрабаваў ад Яна Казіміра, каб той менавіта яго прызначыў ваяводам Віленскага ваяводства. Кароль вымушаны быў згадзіцца. У наступным годзе памёр Ян Кішка. Януш пачаў барацьбу за яго пасаду. Кароль доўга ўпарціўся, але ўсё ж пагадзіўся. Так Радзівіл атрымаў у свае рукі дзве галоўныя пасады ў Вялікім княстве Літоўскім.

А тым часам Багдан Хмяльніцкі вёў перамовы з Масквой. 8 студзеня 1654 года ў Пераяславе быў падпісаны дагавор. Украіна добраахвотна ўз'ядноўвалася з Расіяй. Гэта было поўнай нечаканасцю для кіруючых колаў Рэчы Паспалітай, а Вялікаму княству Літоўскаму прынесла страшэнную бяду. Цар Аляксей Міхайлавіч афіцыйна абвясціў вайну. Яго войскі разам з украінскімі казакамі перайшлі мяжу. Пачалася жорсткая вайна. Да таго ж цар вырашыў ў гэтай барацьбе абаперціся на падтрымку праваслаўнага насельніцтва княства. Ён разаслаў па ўсёй краіне граматы-звароты да адзінаверцаў. Шэраг гарадоў без бою адчынілі яму свае брамы. Войскі Вялікага княства Літоўскага цярпелі паражэнні адно за адным. Нават гарнізон Смаленска не змог утрымацца і склаў зброю. Палякі ж, як заўжды, быццам забыліся пра існаванне дагавора аб ваеннай узаемадапамозе. Яны чакалі, калі Вялікае княства Літоўскае аслабне.

Нечаканым быў паварот падзей і для Януша Радзівіла. Ён спрабаваў што-небудзь зрабіць, як-небудзь сабраць сілы ў кулак і адбіць навалу з усходу. Але не змог. Перашкодзілі гэтаму і агульная разгубленасць шляхты, і тое, што ён ужо не быў польным гетманам. Справа ў тым, што наш зямляк паддаўся на настойлівыя просьбы караля і саступіў гэтую пасаду Вінцэнту Гансеўскаму. З тымі войскамі, якія Януш змог «наскрэбці», ён выступіў супраць рускіх. Бітва адбылася 12 жніўня 1654 года ля невялічкага гарадка Шклова. Войскі рускага цара значна пераважалі па колькасці і былі лепей узброены, таму разбілі войскі Радзівіла ўшчэнт. Яшчэ большае паражэнне пацярпеў ён праз некалькі дзён у бітве ля вёскі Шпялевічы.

Зразумеўшы, што сваімі сіламі не справіцца і што палякі не дапамогуць, Януш зноў узяўся за пяро. Ён піша і Багдану Хмяльніцкаму, і Юрыю II Ракочы (сыну свайго старога знаёмага). З'явіўся ў яго і новы адрасат – шведскі кароль Карл X Густаў. Швецыя валодала ў той час не толькі сваёй сучаснай тэрыторыяй, але і значнай часткай Прыбалтыкі. З іх дапамогай Януш разлічваў утварыць антырускую і антыпольскую кааліцыю. Ён спадзяваўся разбіць захопнікаў з усходу і дабіцца таго, каб Вялікае княства Літоўскае стала поўнасцю самастойнай дзяржавай. Гэтымі планамі Радзівіл падзяліўся з Гансеўскім і літоўскімі сенатарамі. Але не знайшоў паразумення. Раз'юшаны Януш вырашыў працягваць барацьбу з рускімі, і войска Вялікага княства накіравалася да Магілёва. Горад аблажылі і спрабавалі захапіць. Але не змаглі і ў маі 1655 года адступілі. Рускія ж войскі ў гэты час развівалі свае поспехі. Амаль уся Беларусь была захоплена. Здалася нават Вільня.

У гэты ж час на Польшчу напала Швецыя. Шведы засталі зусім не падрыхтаваную да абароны краіну і за некалькі месяцаў захапілі амаль усю яе тэрыторыю. Дарэчы, Багдан Хмяльніцкі заключыў з імі саюз і кінуў казацкую кавалерыю «на ляхаў». Януш Радзівіл з групай паплечнікаў вырашыў скарыстаць гэтую акалічнасць. 18 жніўня 1655 года ім было падпісана пагадненне аб пераходзе Вялікага княства Літоўскага ад уніі з Польшчай да уніі са Швецыяй. Пагадненне падкрэслівала, што гэта аб'яднанне раўнапраўных партнёраў, а не падначаленне адной дзяржавы другой. Сярод іншых яго пунктаў можна назваць такія, як свабода голасу, веравызнання. Адзін з пунктаў прадугледжваў узаемадапамогу у выпадку вайны, але была зроблена заўвага: «... выключаючы караля і Карону Польскую» (г.зн. Польшчу. – **М. Б.**).

Узрадаваныя гэтай падзеяй, шведы абяцалі саюзнікам ледзь не залатыя горы, прынамсі, забяспечыць іх зброяй, порахам і іншымі неабходнымі рэчамі. Абяцалі выплачваць жалаванне, даваць грошы на харч. Войска падтрымала князя Радзівіла, было гатовае хоць зараз выступіць у паход. Але шведы сваё слова не стрымалі. Не было ад іх ні грошай, ні пораху, ні падтрымкі. Усё гэта выклікала абурэнне і гнеў. Успыхнуў бунт. Януш застаўся без арміі. Адданымі яму засталіся толькі тысяча ваяроў. Ды і тыя былі іншаземнымі наёмнікамі, якія служылі за грошы. Але наш зямляк не апусціў рукі. Невядома, на што ён спадзяваўся. Можа, на фартуну, можа, на сваё абаянне, а можа, усё ж на дапамогу адзінаверца – караля Карла X Густава. Януш Радзівіл вырашыў змагацца з бунтаўшчыкамі. Ён заняў тыкоцынскі замак і пачаў рыхтаваць яго да абароны. Але... Сярод тых, хто застаўся з неўтаймоўным князем, былі і яго ворагі. 12 снежня 1655 года Януш раптоўна памірае. Пасля смерці на яго целе выступілі чорныя плямы. Гэта яскрава сведчыць аб тым, што князь Радзівіл быў атручаны.

Так у невялікім замку скончылася жыццё славутага князя. У апошні раз прадстаўнік магутнага магнацкага роду Радзівілаў зрабіў спробу ліквідаваць тую памылку, якую зрабілі магнаты Вялікага княства Літоўскага (у тым ліку і яго продкі), заключыўшы Люблінскую унію.

Гэта была вельмі супярэчлівая асоба. У ім спалучаліся і фамільная ганарыстасць, і гарачы патрыятызм, і вялікія веды, і жорсткасць... Аднак, дзякуючы намаганням такіх асоб, гісторыя рухаецца наперад.

*Мікола БАГАДЗЯЖ, гісторык*

*Калекцыянерам, і не толькі*

## Чайка – на манеце

Перад самым Новым годам Нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь зрабіў своеасаблівы падарунак нумізматам – выпусціў памятныя манеты "Нацыянальны парк "Браслаўскія азёры". Чайка-клыгун" з серыі "Нацыянальныя паркі і запаведнікі Беларусі" – сярэбраную і медна-нікелевую рознымі наміналамі (20 рублёў і 1 рубель), вагою і сплавам.

На адваротным баку манет размешчаны: у цэнтральнай частцы – рэльефная выява чайкі-клыгуна на фоне азёрнай паверхні, па крузе надпіс "Браслаўскія азёры"; унізе – надпіс "Чайка-клыгун".



Гродзенскія ўзоры

## У 2004 годзе спаўняецца:

**Эпімах-Шыпіла Уладзіслаў Ігнатавіч** (1864–1914), дзеяч культуры, удзельнік культурна-асветніцкага руху беларусаў у Пецярбургу – 140 гадоў з дня нараджэння.

**"Полоцкие епархиальные ведомости"**, штотыднёвае выданне, орган Полацкай праваслаўнай духоўнай кансісторыі (Віцебск; 1874) – 130 гадоў з пачатку выдання (з перапынкам).

**Бязродная Яўгенія Рыгораўна** (1874, Мсціслаў – 1942), расійская і беларуская скрыпачка, кампазітар, педагог – 130 гадоў з дня нараджэння.

**Завадскі Фелікс Феліксавіч** (1874, Вільня – 1940), друкар, выдавец – 130 гадоў з дня нараджэння.

**Піліпаў Іван** (сапр. Нялепка Язэп Піліпавіч; каля 1879, Гродзен. р-н – пасля 1920), пісьменнік, публіцыст, перакладчык – 125 гадоў з дня нараджэння.

**Кумельскі Уладзімір Уладзіміравіч** (1884–1939), акцёр, рэжысёр, заснавальнік рускага тэатра на Беларусі, заслужаны артыст Беларусі, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі – 120 гадоў з дня нараджэння.

**Пачопка Баляслаў Антонавіч** (1884, Віцеб. губ. – 1940), культурна-асветніцкі і рэлігійны дзеяч – 120 гадоў з дня нараджэння.

**Мільчын Ісаак Іосіфавіч** (1894–1943), графік, член першай арганізацыі мастакоў Беларусі – 110 гадоў з дня нараджэння.

**Мазалеўскі Іван Герасімавіч** (1894, Мастоўс. р-н – 1984), беларускі народны казачнік – 110 гадоў з дня нараджэння.

**Петрашкевіч Альфонс Баляслававіч** (1894, Віленшчына (?) – 1918), пісьменнік – 110 гадоў з дня нараджэння.

**Васілеўскі Мікалай Пятровіч** (1904–1937), графік, жывапісец – 100 гадоў з дня нараджэння.

**Семашкевіч Раман Мацвеевіч** (1900 ці 1904, Маладзеч. р-н – 1937), жывапісец, графік, скульптар – 100 гадоў з дня нараджэння.

**Шукайла Паўлюк** (Павел Захаравіч; 1904, Берастав. р-н – 1939), пісьменнік, крытык – 100 гадоў з дня нараджэння.

**Басінкевіч Паліна Самуілаўна** (Поля; 1914, Мінск – 1942), актрыса – 90 гадоў з дня нараджэння.

**Беларускі народны хор пад кіраўніцтвам У. В. Тэраўскага**, адзін з першых беларускіх харавых калектываў (Мінск; 1914) – 90 гадоў з часу стварэння.

**Сямашка Мікола** (Мікалай Пятровіч; 1914, Полац. р-н – 1941), паэт – 90 гадоў з дня нараджэння.

**"Авадзень"**, часопіс гумару і сатыры (Вільня; 1924–1933) – 80 гадоў з пачатку выдання.

**"Беларуская навука"** (да 1996 г "Навука і тэхніка"), кніжна-часопіснае выдавецтва (Мінск; 1924) – 80 гадоў з часу заснавання.

**"Летапіс друку Беларусі"**, штомесячны дзяржаўны бібліяграфічны паказальнік (Мінск; 1924) – 80 гадоў з пачатку выдання.

**Бабруйскі краязнаўчы музей** (1924) – 80 гадоў з часу заснавання.

**Беларускае таварыства інвалідаў па зроку**, грамадская арганізацыя (1924) – 80 гадоў з часу заснавання.

**Мінскае дзяржаўнае музычнае вучылішча імя М. І. Глінкі,** сярэдняя спецыяльная навучальная ўстанова (Мінск; 1924) – 80 гадоў з часу заснавання.

**Музей Беларускага Палесся** (Пінск; 1924) – 80 гадоў з часу заснавання (адкрыты ў 1926 г.).

***(Працяг будзе.)***

***Існуе павер'е, што хлопца можна прываражыць. І мне захацелася праверыць магію такіх чар, але не было часу, ды і належнай кандыдатуры. Сяброўкі ж папярэджвалі, што можна натрапіць на такіх прыварожаных, што будуць потым бегаць за табой, насіць кветкі, чакаць-вартаваць каля пад'езда...***

*Паверыце ці не?*

## Чары ёсць!

Да якіх толькі хітрыкаў не звярталіся дзяўчаты: паілі суджанага "прываротным напоем", выкрыквалі ў акно закляцці на заходзе сонца, узгадвалі яго імя ў пэўны час... Адна нават не пашкадавала грошай і купіла самую сапраўдную "Кнігу для варажбы".

Глядзела я на ўсё гэта з вялікай цікаўнасцю і з пэўным недаверам. Але цікаўнасць перамагла. Ну што ж, прычаруем! А можа, і сапраўдны каханы знойдзецца? Я пачала ўзгадваць імёны ўсіх хлопцаў, якіх ведала, ды ні адзін з іх не падыходзіў на ролю суджанага.

***

Я ішла па вуліцы і ўбачыла Яго – хлопца, пра якога марыла, здаецца, усё жыццё. Дарэчы, сустракаліся мы з ім амаль кожны дзень, але глядзела я на яго зусім не так, як цяпер. Убачыла яго позірк, усмешку. Не ведаю чаму, але мне падалося, што менавіта ён – мой суджаны, вартая, так сказаць, асоба для варажбы.

***

Вырашыла не перабольшваць – выбрала самае простае для прываблівання. Дзеля гэтага яшчэ раней купіла дзве свечкі з воску і карабок запалак. Свой пакой упрыгожыла рознымі люстэркамі і пацеркамі. У пятніцу, роўна апоўначы, запаліла абедзве свечкі. Паводле кнігі трэба было мне глядзець на полымя і ўяўляць, як нашы душы яднаюцца ў адну, а калі свечкі дагараць, зляпіць воск у форме сэрцайка і насіць з сабою як талісман. Глядзела я на гэтыя два маленькія язычкі полымя, уяўляла, ды... нечакана заснула.

Бах! Хапаюся за лоб, які штосьці апякло. Расплюшчваю вочы і бачу перад сабой толькі агромністае полымя, увесь пакой напоўнены дымам: напэўна, свечка, дагараючы, падпаліла пластмасавую талерачку – загарэлася нізкае мяккае крэсельца. Забыўшыся на суджанага, я пачала тушыць агонь. Дзьму, але жоўта-чрывоныя язычкі толькі большаюць. Хапаю нейкую адзежыну (як потым высветлілася, свае сінтэтычныя штаны) і пачынаю біць ёй па ўзгарэлым крэсле. Але – марна: агонь перакідваецца на штаны. Урэшце я бягу на кухню па ваду...

***

Пасля начнога пажару мой пакой пазнаць было немагчыма: чорнымі сталі шпалеры, мэбля, фіранкі, кветкі, кнігі – усё. Дыван прапалены і з-пад яго, праз дзірку, выглядвае дошчачка паркету. Знікла крэсла. Застаўся толькі настой гары.

Цяжка было патлумачыць начное здарэнне бацькам. Сябры ж прыходзілі паглядзець на "папялішча" як на экспанат у музеі. Што тычыцца хлопца, дык пасля гэтай ночы варажбы мы сталі лепшымі сябрамі. Вось і думаю зараз: можа і праўда, існуюць нейкія чары? Але ж яны, як бачыце, даволі рызыкоўныя.

*Наталія КАРАЧУН,*
*вучаніца 11 "А" класа*
*СШ № 2 г. Мінска*

## Малая краязнаўчая энцыклапедыя

**Арнамент** (ад лац. упрыгожанне) – узор з рытмічна ўпарадкаваных элементаў для аздаблення твораў жывапісу, скульптуры, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, хатніх прадметаў, архітэктурных збудаванняў. Па-народнаму арнамент называюць аздобай, акрасаю, цацкаваннем. Ён можа выконвацца па-рознаму – тканнем, вышыўкай, пляценнем, накладкаю, налепкаю, малюнкам і інш. У дэкаратыўна-прыкладным мастацтве арнамент на Беларусі ўжываўся ў розных відах (у тым ліку і на вырабах з рагоў і касцей) з часоў позняга палеаліту, пазней, у мезаліце, развіваўся і ўдасканальваўся пераважна ў кераміцы, якая аздаблялася разнастайнымі нарэзкамі, наколамі, грабеньчатымі і ямкавымі ўзорамі, часам схематычнымі выявамі людзей і птушак. У бронзавым веку з развіццём касмаганічных культаў у арнаменце з'явіліся сімвалічныя выявы нябесных свяціл, у жалезным веку пашырылася арнаментацыя вырабаў з металаў. Шмат арнаментальных выяў знойдзена на прадметах хатняга ўжытку, творах дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва старажытнаславянскіх часоў.



Беларускі арнамент набыў нацыянальную асаблівасць у XIV–XVI стагоддзях. Характэрныя яго рысы найбольш ярка выявіліся ў народным ткацтве і вышыўцы (адзенне, асабліва жаночыя кашулі, фартухі, галаўныя ўборы, посцілкі, ручнікі, абрусы, паясы і інш.), у мастацкай апрацоўцы дрэва, набіванцы, кераміцы. Тканы беларускі арнамент (натыканне) у большасці геаметрычны па малюнку. Яго асноўныя элементы – варыянты ромба або "круга", разетка, прамакутнік, крыж, пасак і іх часткі. Часам геаметрычны арнамент у ткацтве спалучаецца з раслінным (кветкі, лісточкі, галінкі, вязь, букет, вазон), высокай дасканаласці дасягнуў у слуцкіх паясах і дыванах. Нацыянальная асаблівасць беларускага арнаменту праяўляецца ў мяккіх лініях, разрэджанасці малюнка, у перавазе чырвонага або чырвонага з чорным колераў пры ткацтве палатна, чырвонага, сіняга, чорнага, зялёнага, жоўтага, карычневага колераў пры ткацтве посцілак. У арнаментальных матывах і колерах адлюстраваны старажытныя вераванні, якія захаваліся ў семантыцы выяў – ваконца, грабелькі, сякеры, калодзеж, каравай, ключыкі, колцы, зоркі, сняжынкі і інш., з раслінных узораў – елачкі, кляновы ліст, валошка, лянок, жолуд, сланечнік, кветкі, вазон; з зааморфных – пчолка, гусачка, кажан, павучкі, конік, гусіныя лапкі, валовае вока і інш. Кампазіцыя арнаменту будуецца на рытмічнай паўторнасці элементаў, часта ў выглядзе бардзюра (на фартухах, ручніках). У мастацкай апрацоўцы дрэва традыцыйныя элементы – нарэзкі, рубчыкі, зубцы, паскі, зігзагі, разеткі, што выпільваліся ці па-рознаму выразаліся. Арнамент упрыгожваў прадметы хатняга ўжытку і вытворчасці – кублы, прасніцы, чаўны, цуркі, качалкі, посуд, табакеркі і інш.



У іх аздабленні пераважаў геаметрычны прынцып, выкарыстоўваўся стылізаваны раслінны. У іканастасах, алтарах, амбонах і інш. пышны раслінны арнамент (звычайна ў выглядзе вінаграднай лазы, аканту і г.д.) выконваўся глыбокай ажурнай і глухой разьбою. Гэты стыль сфарміраваўся ў XVI–XVII стагоддзях.

У выяўленчым мастацтве Беларусі арнамент шырока ўжываецца ў графіцы і жывапісе. У рукапісных кнігах арнаментальны характар мелі застаўкі, канцоўкі, некаторыя літары і ініцыялы. У XVI–XVIII стагоддзях у іканастасе былі пашыраны розныя па ляўкасу (ляўкас (ад лац. белы) – мелавы грунт у сярэднявечным жывапісе) пазалочаныя арнаментальныя фоны з элементамі геаметрычнымі і раслліннымі. Раслінны, узмоцнена стылізаваны, арнамент характэрны для кніжнай графікі.

У архітэктуры арнамент выяўляе архітэктоніку збудаванняў, падкрэслівае асобныя чляненні, вылучае галоўныя, найбольш значныя ў кампазіцыі часткі, важныя канструктыўныя элементы і архітэктурныя дэталі; цесна сплецены з канструкцыяй, якая дэкарыруецца матэрыялам, формай, колерам, фактурай. На Беларусі з'явіўся не пазней XI–XII стагоддзяў. У мураванай архітэктуры часцей геаметрычны. У некаторых выпадках выкарыстоўваецца раслінны, зааморфны, антрапаморфны (галоўны фасад палаца Нясвіжскага замка, аздабленне інтэр'ераў, касцёл езуітаў у Нясвіжы і г.д.) У драўляным дойлідстве ствараецца пераважна скразной, краявой і глухой разьбою, выкарыстоўваецца ў аздабленні ліштваў, фрызаў, карнізаў, шчытоў, верандаў, варот і інш. Арнамент у архітэктуры надае будынкам рытмічнасць, узмацняе кантраст і нюанс.

***(Працяг будзе.)***

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі:
грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета

Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамаснай – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Першы нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас:
220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6.
Тэл. 283 28 26.
E-mail:
kraga@tut.by



Падпісана па друку: 29.01. 2004.
Газета надрукавана ў друкарні УП «Светач»: 220030, г. Мінск, вул. Першамайская, 7.
Заказ 185.
Тыраж 1050.